ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (25) красавік 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

# У гонар Папы



**16 красавіка ў мінскай архікатэдры адбылася ўрачыстая святая Імша на пачатак Пантыфікату Папы Францішка і ў знак падзякі за гэты дар, які Бог даў Касцёлу. Літургію ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.**

У Імшы ўдзельнічалі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка, дапаможны біскуп Пінскай дыяцэзіі Казімір Велікаселец, Апостальскі адміністратар Віцебскай дыяцэзіі кс. прэлат Францішак Кісель, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, святары і кансэкраваныя асобы, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, Праваслаўнай і Лютэранскай Цэркваў, вернікі з Мінска.

На пачатку Імшы Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў, што з абраннем папы Францішка "распачалася пісацца новая старонка гісторыі Касцёла. Увага, якая была звернутая на выбары новага Пантыфіка, нагадвае аб значэнні і ролі Касцёла і яго бачнай галавы ў сучасным свеце", – дадаў архіпастыр.

"З абраннем новага Папы мы звязваем новыя надзеі. Да гэтага схіляюць нас паходжанне Папы, яго езуіцкая фармацыя і імя. Сімвалічна, што новы Пантыфік паходзіць з Буэнас-Айрэса, што з'яўляецца знакам універсальнасці Касцёла і ўнясення ў яго жыццё свежага паветра, бо "Буэнас-Айрэс" перакладаецца як „добрае паветра", – сказаў іерарх.

"Сёння мы сабраліся, каб узнесці свае малітвы да Бога за нашага Папу. Касцёл – гэта Хрыстова Цела, і Бог ніколі не забывае пра сваё жывое цела", – сказаў у гаміліі Апостальскі Нунцый.

"Мы молімся за новага Біскупа Рыма і ў той самы час молімся за сябе. Згодна з даручэннем, якое было дадзена Апосталу Пятру, місія Папы заключаецца менавіта ў тым, каб ён узмацняў веру сваіх братоў і сясцёр. Ён, згодна са старажытным тытулам, ёсць "Слуга Слугаў Божых", – адзначыў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.

*Працяг на стар. 2*



Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей

**Бягомль**
Пра святочную сустрэчу ў інтэрнаце чытайце на стар. 9



**Жанчына ў Ватыкане**
Чытайце на старонцы 13



**Інтэрв'ю**
Госць нумара – Андрусь Такінданг. Старонка 8



**Ёга**
Што на гэта Касцёл? Адказ на старонцы 6



**Гомель**
Католікі евангелізуюць на вуліцах. Старонка 3



# Аляксандр Лукашэнка: У Беларусі Рыма-Каталіцкі Касцёл мае вельмі вялікае значэнне



**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 1 красавіка наведаў архікатэдральны касцёл імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску.**

У ходзе візіту Прэзідэнт азнаёміўся з урачыстым убранствам святыні, а таксама агледзеў стэнд з фотаздымкамі будоўлі чатырох новых касцёлаў у Мінску – у мікрараёнах Малінаўка, Серабранка, Чыжоўка і Каменная Горка.

Падчас сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, якая прайшла ў курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Прэзідэнт Беларусі выказаў віншаванні арцыбіскупу і ўсім святарам з нагоды велікодных святаў, а таксама звярнуў увагу на важную ролю Касцёла, якую той адыгрывае ў беларускім грамадстве.

«Вельмі важна тое, што сёння адбываецца ў Рыма-Каталіцкім Касцёле, таму што ні для каго не сакрэт, што ў нас у Беларусі Рыма-Каталіцкі Касцёл мае вельмі вялікае значэнне і яго ўплыў у нашым грамадстве вялікі. Таму мне неабыякава, які стан спраў у Рыма-Каталіцкім Касцёле ў Беларусі», – цытуе словы кіраўніка дзяржавы БЕЛТА.

Прэзідэнт перадаў у дар архіпастыру велікоднае яйка, выкананае беларускім майстрам Уладзіславам Цеслем. Яйка створана ва ўнікальнай тэхніцы "Сожская скань", заснаванай на выкарыстанні драўлянай стружкі.

Вышыня яйка – каля 20 см, вышыня падстаўкі – 12 см. Аснова яйка ілюструе Галгофу. Унутры сферы змешчана мініяцюрнае ўкрыжаванне. Па баках – два разныя медальёны з выявай Панны Марыі і Езуса Хрыста. Вянчае яйка фігура Хрыста вышынёй у 7 см.

У адказ на атрыманы падарунак каталіцкі іерарх перадаў у дар Прэзідэнту кнігу «Святога Евангелля» на беларускай мове, аналаг якога ў снежні 2012 года Мітрапалітам Кандрусевічам быў падораны Бэнэдыкту XVI. Кніга змяшчае тэксты чатырох кананічных Евангелляў: паводле Мацвея, Марка, Лукі і Яна.

«З нашага боку падарунак, магчыма, і сціплы – гэта проста кніга, але для нас яна вельмі дарагая. Упершыню „Святое Евангелле" было выдадзена на сучаснай беларускай мове. Гэта першае выданне, і для нас гэтая кніга мае вельмі вялікую каштоўнасць», – адзначыў архіпастыр.

*Ільля Лапато OCDS,*
*www.catholic.by*

# У гонар Папы

*Працяг са стар. 1*

"Людзі хочуць знакаў, а дакладней, хлеба, Бог становіцца выгадным чараўзеем, і мы можам перамагчы у спаборніцтве з іншымі багамі, дэманструючы, што наш Бог мацнейшы і больш выгадны, – патлумачыў іерарх. – Але Езус расчараваў людзей, якія прасілі хлеба (...)". „Я тут, каб наталіць прагненне праўды, справядлівасці і любові".

"Францішак, як і ўсе папярэднія Папы, падкрэсліў, што толькі гэта таямнічая, асабістая, гарачая камунія з асобай Езуса Хрыста ёсць збаўленнем свету, – адзначыў Апостальскі Нунцый. – Езус – гэта хлеб жыцця. І тут, у Эўхарыстыі, разумеем, што гэты хлеб – гэта паламаны хлеб. Таму што жыццё Езуса было паламанае. Паламанае смерцю. Паламанае Яго ўласным жэстам, калі Ён ламаў хлеб уласнага цела і падаваў сваім вучням на Апошняй Вячэры. Хлеб павінен прайсці праз смерць, каб стаць хлебам жыцця".

"Папа сам падкрэсліў таямніцу крыжа, калі сказаў: „Калі мы крочым без крыжа, калі будуем без крыжа, калі вызнаём Хрыста без крыжа, мы не вучні Пана – мы вучні гэтага свету", – нагадаў прадстаўнік Пантыфіка.

Напрыканцы літургіі да прысутных звярнуўся старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Аляксандр Кашкевіч.

Протаіерэй Аляксандр Шымбалёў перадаў віншаванні ад Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта і ўсяго кіраўніцтва Беларускай Праваслаўнай Царквы з нагоды абрання Рымскага Папы Францішка.

Віншаванні выказаў таксама пастар Рэлігійнай лютэранскай супольнасці ў Гродне Уладзімір Татарнікаў.



16 красавіка ў Мінску адбыўся ўрачысты прыём, арганізаваны Апостальскай Нунцыятурай у Беларусі з нагоды пачатку Пантыфікату Папы Францішка. На прыёме прысутнічалі каталіцкія біскупы і ардынарыі, прадстаўнікі дзяржаўнай улады, рэлігійныя лідары і прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу.



Апостальскі Нунцый, звяртаючыся да прысутных на прыёме, адзначыў: "На змену адной культуры прыйшла цалкам іншая. Пасля Папы еўрапейца – лацінаамерыканец. Пасля таго, хто быў увасабленнем усіх дасягненняў і крызісу Старога Свету, прыйшоў той, хто з'яўляецца носьбітам маладосці і прастаты, але разам з тым і сведкам трагедыі страшэнных памераў беднасці. Прадстаўнік Паўднёвага паўшар'я, поўнага імпэту, але жахліва збяднелага (...)".

"Папа Францішак нагадвае нам пра тое, што змаганне з беднасцю і клопат пра бедных – не проста нейкі магчымы накірунак дзейнасці, гэта наш абавязак. Ён нагадвае нам, што гэта не толькі пытанне добрай волі, а праблема справядлівасці ў сусветным маштабе, – падкрэсліў прадстаўнік Святога Айца. – Правы чалавека пачынаюцца з нашага абавязку забяспечыць рэальную справядлівасць і раўнапраўе для ўсіх, пачынаючы з масы галодных і заканчваючы зняволенымі асобамі. Выбар Папы Францішка з'яўляецца для нас нагодаю, каб задаць сабе пытанне: ці сапраўды мы пакідаем месца на штосьці новае?"

*Падрыхтавала* ***Алена Пажога*** *паводле catholic.by;* ***Віталь Палінеўскі****, фота*

Паставы

# Крыжовы шлях у Паставах

*“Божа Мой, Божа Мой! Чаму ж Ты мяне пакінуў!”*
Мацв. 27, 46

**Стала ўжо добрай традыцыяй кожны год у Вялікую Пятніцу праводзіць Крыжовы шлях па вуліцах нашага горада.**

29 сакавіка адбылася гэта знакавая падзея. Ксёндз-пробашч Анджэй Возняк на гэты раз прапанаваў адметны жэст – кожны вернік павінен быў загадзя падрыхтаваць на аркушы паперы спіс сваіх праблем, слабасцяў і грахоў з просьбай да Пана аб Яго дапамозе. На лістку яшчэ трэба было намаляваць крыжык – сімвал нашага асабістага жыццёвага крыжа.

Падчас разважання кожнай стацыі адказныя за падрыхтоўку падыходзілі да крыжа і нанізвалі гэтыя аркушы на цвікі, прыбітыя да крыжа. Гэтым жэстам мы давяралі нашыя цяжкасці і правіны толькі Яму – нашаму Валадару і Суддзю. Потым лісточкі будуць спаленыя. Гэты жэст дапамог многім шчыра адкрыцца ў пакаянні перад Езусам за свае грахі. І хоць надвор’е не вельмі спрыяла, але людзей было шмат.

Закончылася Крыжовая дарога жалобнай літургіяй у касцёле. Усе былі вельмі ўзрушаныя і шчыра перажывалі Мукі і Смерць Пана за нас, грэшных. Кожны, спадзяюся, зрабіў аналіз свайго жыцця, каб сказаць: ”Які за нас цярпеў ад ранаў, Езу Хрысце, злітуйся над намі!”

*Аліцыя Трафімовіч*



Гомель




# Добрая Вестка на вуліцы

**Кожны тыдзень у гомельцаў ёсць магчымасць пачуць Добрую вестку пра любоў і перамогу Хрыста.**

У першую нядзелю пасля Вялікадня Неакатэхуменальнай суполкі гомельскай рыма-каталіцкай парафіі пачалі праводзіць евангелізацыя на вуліцы. Ва ўсім свеце ў гэты дзень каталікі Неакатэхуменальнага шляху выйшлі на цэнтральныя плошчы сваіх гарадоў, каб несці мінакам Добрую вестку пра любоў і перамогу Хрыста. Паводле беларускіх законаў без дазволу ўладаў ладзіць масавыя мерапрыемствы на вуліцы забаронена, таму ў Гомелі евангелізацыя праходзіць на пляцоўцы перад храмам. Ён знаходзіцца на цэнтральнай вуліцы горада, дзякуючы чаму ўсё роўна нямала мінакоў могуць пачуць пра любоў Бога да кожнага чалавека.

Першая евангелізацыя доўжылася каля гадзіны. Пад гітары і барабаны каталікі спявалі пра Уваскрасенне Хрыста і казалі пропаведзь, зыходзячы са свайго вопыту, сведчылі пра асабістую сустрэчу з Хрыстом у жыцці. Некаторыя мінакі спыняліся і распытвалі пра Бога, далучыліся да вернікаў і некалькі бяздомных і хворых людзей.

Цяпер такія сустрэчы ля касцёла будуць праводзіцца да 5 траўня ўключна, кожную нядзелю а 13.30. Каталікі запрашаюць прыходзіць кожнага, каб пачуць Добрую вестку.

*Гомельскі каталіцкі партал*

# Нашыя сэрцы заўсёды раскрытыя

**Хвала Хрысту!**

Дзень добры, паважаная рэдакцыя. Віншуем вас з самым вялікім і радасным святам – Уваскрасеннем Пана нашага Езуса! Дзякуем за вашу цудоўную газету і жадаем усім яе супрацоўнікам дабра і міласэрнасці Божай!

Ведаю, што падобнай карэспандэнцыі цяпер многа, але вельмі хочацца і нам падзяліцца навінамі, расказаць, што адбываецца ў нашай парафіі.

Наш горад своеасаблівы. Па-першае, ён вельмі малады: год заснавання – 1964. Па-другое, гэта прамысловы горад: будаваўся, у першую чаргу, дзеля патрэбаў магутнай ГРЭС, таму амаль усе старэйшыя жыхары яго – людзі, якія прыехалі з розных куткоў краіны. І прыехалі, і будавалі яны горад у такі час, калі не вельмі віталася вера ў Бога. Зразумела, што за такі кароткі перыяд яшчэ, уласна кажучы, не паспела пасталець нават другое пакаленне.

Горад па сутнасці не мае “старой” забудовы, усе дамы шматпавярховыя. Таму і парафія не вельмі вялікая. Але тым больш радасна, што нашых вернікаў ведаюць у горадзе, шануюць за справы міласэрнасці. І калі з гонарам гавoрыш: я каталік, – бачыш, што людзі ставяцца з павагай. Касцёл жыве, парафія павялічваецца, да нас прыязджаюць госці з Прыбалтыкі, Польшчы, знаёмыя і родныя нашых вернікаў з розных куткоў Беларусі. У нас невялікі, але затое прафесійны хор: усе ўдзельнікі (у тым ліку і арганіст) – выкладчыкі школы мастацтваў. Ёсць у касцёле і свая газета, у якой распавядаецца пра традыцыі, святы і набажэнствы, рэгулярна асвятляюцца ўсе навіны з інтэрнэту паводле catholik.by.

Нашым нязменным і незаменным кіраўніком, натхняльнікам ва ўсіх справах, захавальнікам касцельных традыцый з’яўляецца салістка хору, галоўны бухгалтар, а доўгі час – і старшыня касцельнага камітэта Алена Аляксандраўна Юркойць. Яна стаяла ля “вытокаў” нашай парафіі, можна сказаць, што яе рукамі і сэрцам пабудаваны наш касцёл. Пра гэтага выдатнага і незвычайнага чалавека я яшчэ раскажу больш падрабязна.

Незадоўга да Вялікадня ў нас адбыліся рэкалекцыі. Іх праводзіў ксёндз Алег Півавар з Лёзна. З вялікай увагай слухалі вернікі разважанні. Як разумна, лагічна, а галоўнае, трапна гучалі словы святара! Нібы ён зазірнуў у душу кожнаму, убачыў асабістыя перажыванні і даў адказ на сумненні. Асабліва запомніўся алегарычны вобраз крыжа, які чалавеку цяжка несці, і ён імкнецца падкараціць, адрэзаць кавалак гэтага крыжа. Але вось перад чалавекам бездань, і няма як перабрацца, бо крыж ужо кароткі: “крэдыт” даверу Божага скончыўся – чалавек сам адмовіўся ад Яго, адштурхнуў руку, працягнутую на ратунак! “Вы хочаце любові? Дык шукайце яе! Не чакайце, што гэта проста зваліцца ў рукі без намаганняў з вашага боку... Вы прагнеце Міласэрнасці Божай? Яна на кожным кроку. Толькі ўмейце ўбачыць яе і шанаваць”, – гаварыў ксёндз Алег.

Прамова настолькі спадабалася, што па заканчэнні яе хацелася нават адказаць апладысментамі! Мы вельмі ўдзячныя ксяндзу Алегу за тое, што ён прыехаў да нас так здалёку, што так выдатна падрыхтаваў для нас рэкалекцыі. Жадаем яму ўсялякіх дабротаў і чакаем у сваім касцёле яшчэ і яшчэ!

Уперыяд Вялікага посту святар нашай парафіі кс. Аляксандр аб’явіў акцыю па ахвяраваннях для выхаванцаў дзіцячага прытулка ў г.Чашнікі. Людзі неслі цацкі, гульні, цукеркі, размалёўкі, салодкія пачастункі... У першы ж панядзелак пасля Вялікадня ўсё гэта было адвезена дзецям. Трэба было бачыць радасць маленькіх, пазбаўленых бацькоўскага цяпла! Справа ж не столькі ў рэчах, колькі ў шчырым жаданні сагрэць сэрцайкі Божым Святлом, даць хоць кроплю дабрыні, якой яны пазбаўленыя лёсам. “Kropla Miłości znaczy więcej niż ocean rozumu!” – словы Яна Паўла ІІ найбольш трапна адлюстроўваюць сэнс нашай акцыі. Знакам падзякі было запрашэнне на святочныя мерапрыемствы ў дзіцячым прытулку ад супрацоўнікаў гэтай установы.

Усім, хто да нас звяртаецца (і пакуль што не звяртаецца) кажам: мы тут, мы побач, нашыя сэрцы заўсёды раскрытыя дзеля спраў дабрачыннасці, як і само Найсвяцейшае Сэрца Езуса Хрыста.

Нідзе не было так добра, як у касцёле, і мне асабіста. Мой шлях да яго быў доўгім і няпростым. Тым больш каштоўным бачыцца цяпер усё, што звязана з ім. Ад чаго б ні пакутавала душа, што б ні здавалася невырашальным, прыйдзеш, паслухаеш святара ці проста пабудзеш у цішы – і вось ён, адказ на ўсе сумненні і пытанні. Проста цуд Божы! І самі сабой складаюцца радкі...

*Як дзіўна памянялася жыццё,*
*Калі ўзнесліся нада мной крыжы касцёла!*
*Свет Божы разгарнуўся навакола,*
*Не страшны боль і цемры небыццё.*

*І новым сэнсам атачоны дзень,*
*І ноч бясконцаю быць перастала...*
*Ах, колькі год я ў роспачы шукала*
*На скрыжаваннях лёсу Тваёй Ласкі цень.*

*О Пане мой, Твой неацэнны дар*
*Душа мая навекі праслаўляе.*
*“Пан з вамі”, – прамаўляе зноў святар,*
*І сэрца ў адказ яму спявае!*

***Зося Мацкевіч****,*
*парафія*
*Св. Марыі Магдалены,*
*г. Новалукомль*

# ПРАЧНІЦЕСЯ!

**Аб трагічнай сітуацыі ў Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы піша ў сваім блогу Габрыэла Дурчык, медсястра ў лякарні для пігмеяў у Багандоу.**

*«Мы знаходзімся ў сярэднеафрыканскай рэспубліцы, краіне, дзе ёсць паўстанне. Наша жыццё знаходзіцца ў небяспецы, але мы не хочам выязджаць. Мы баімся, але мы ўпэўненыя, што тут патрэбныя, каб выканаць сваю місію. Гэта залежыць ад вас, ці нашы намаганні не будуць марнымі. Такім чынам, яшчэ раз прашу вас ад усяго сэрца: ПРАЧНІЦЕСЯ!» – піша місіянерка з Тарнаўскай дыяцэзіі. У Багандоу разам з ёй працуюць і іншыя польскія місіянеры: кс. Мечыслаў Паяк, Эла Врык – дырэктар бальніцы для пігмеяў, Мар'яна Такарчык – лабарант, Ізабэла Цыва – аптэкарка і палітолаг.*

*Перасled, катаванні, 500 тыс. уцекачоў, голад, смерць, адсутнасць якіх-небудзь дзяржаўных адміністрацый, уцёк прэзідэнта, крадзяжы, пагрозы, гнеў паўстанцаў – так апісваюць сітуацыю ў Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы польскія місіянеры, якія там працуюць.*

*Пра трагедыю, што адбываецца ў краіне, сказаў 27 сакавіка Папа Францішак і заахвоціў неадкладна спыніць гвалт і рабаванні, як мага хутчэй знайсці палітычнае выйсце з крызісу.*

*У Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы паўстанцы з мусульманскіх груп ажыццяўляюць рабаванні каталіцкіх цэнтраў. Іх ахвярамі сталі вернікі, якія ўдзельнічалі ў Эўхарыстыі 24 сакавіка гэтага года ў катэдры ў сталіцы Банга. Паўстанцы не выратавалі нікога і нічога, за выключэннем мячэцяў і мусульманскіх гандляроў, якія выкупляюць крадзеную маёмасць ад іх.*

*Габрыэла Дурчык піша ў сваім блогу: «Наша жыццё знаходзіцца ў небяспецы. Хоць паўстанцы не арыентаваныя на забойства і рабаванні, але ў іх ёсць зброя. Ніхто не ведае, што можа здарыцца. Наша жыццё знаходзіцца ў небяспецы – усіх нас, усёй краіны, кожнага чалавека. Давайце рабіць нешта ў рэшце рэшт! Адсутнасць рэакцыі з боку свету толькі ўмацоўвае асоб, адказных за хаос, у сваёй беспакаранасці. Калі ўлады, людзі з пэўнымі паўнамоцтвамі і, нарэшце, звычайныя грамадзяне, якія не думаюць, якія не жадаюць думаць, а толькі паглынаць тое, што ім падаюць на талерцы, не прачнуцца, такая сітуацыя будзе паўтарацца, людзі будуць паміраць у маўчанні, будуць знікаць з гэтага свету, іх гісторыя будзе паміраць, будзе забытая.*

*Цяпер прынята лічыць: у выпадку канфліктаў у Афрыцы нічога не можна зрабіць.*

*Мы знаходзімся ў сярэднеафрыканскай рэспубліцы, краіне, дзе ёсць паўстанне. Наша жыццё ў небяспецы, але мы не хочам выязджаць. Мы баімся, але мы ўпэўненыя, што тут патрэбныя, каб выканаць сваю місію. Гэта залежыць ад вас, ці нашы намаганні не будуць марнымі. Такім чынам, яшчэ раз прашу вас ад усяго сэрца: ПРАЧНІЦЕСЯ!»*

*Паводле*
*przezywam.blogspot.fr*



**P.S.** Заахвочваем усіх чытачоў агарнуць малітвай хрысціян Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі і такім чынам падтрымаць усіх, каму патрэбная дапамога.







# Прывітанне з далёкай Афрыкі

***Пахвалёны Езус Хрыстус, аллелюя!!!***

*Толькі што атрымалася выйсці на сувязь, значыць, спачатку хачу падзякаваць за пажаданні і памяць, потым хачу перадаць прывітанне Вам усім і сказаць, што я таксама вельмі рады, што яшчэ мяне не забылі. А цяпер трэба выканаць тое, што калісьці паабяцаў напісаць, калі пачнуць забіваць людзей. І вось пачалося. У Пальмавую нядзелю мяцежнікі ўвайшлі ў сталіцу, кралі ўсё і паўсюды, паразбівалі вялікія станцы з палівам, пабілі некаторых святароў, гвалтавалі жанчын і пры гэтым усім сказалі, што прыходзяць даць мір і супакой. Жудасна проста. На сённяшні дзень нічога яшчэ не скончылася, кожны дом, ці багаты, ці бедны, наведваюць і крадуць. Шмат людзей уцяклі ў лес, некаторыя зараз пачынаюць вяртацца, але няма да чаго.*

*Аднабылацікаваясітуацыя: пасля вялікіх выстралаў, увечары перад Імшой, загадаў аднаму міністранту пазваніць у званы. Людзі пачалі пытацца: "Чаму званы звіняць?" Мяцежнікі ўвайшлі, а я спакойненька кажу: "Таму што праз 30 хвілін Імша будзе ў касцёле."*

*Вось так і жывём. Дзякуючы Божай ласцы і малітве шматлікіх людзей у нашай парафіі яшчэ спакойна. Як доўга, толькі Бог адзін ведае. Спачатку не было ніякай сувязі: ні тэлефонаў, ні інтэрнэту, ні радыё – нічога. Зараз,якбачыце,магуштосьці напісаць, значыць, жыву :-)))*

*Яшчэ раз: прывітанне ўсім глыбачанам, асабліва даўняй моладзі :-)))*

*кс. Кшыштаф*

**Ад рэдакцыі**

Кс. Кшыштаф Мікалайчык родам з Польшчы. Працаваў у Глыбокім у 2003-2007 гадах. Запомніўся вернікам як аддадзены і руплівы пастыр. Дасканала авалодаў беларускай мовай. Шмат увагі аддаваў працы з моладдзю. Актывізаваў дзейнасць міністрантаў у парафіі і распачаў вонкавы рамонт касцёла. На сённяшні дзень працуе ў Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы.



Віцебск

# ДЛЯ ТЫХ, ХТО Ў ПАТРЭБЕ

**«Caritas» Віцебскай дыяцэзіі дзякуючы спонсарскай дапамозе сумесна з парафіяй Святога Антонія дзяліліся радасцю Уваскрасення Хрыста з людзьмі, якія знаходзяцца ў патрэбе.**

У гэтыя дні вельмі важна не застацца без бласлаўлення і ўвагі блізкіх. Больш чым для 100 чалавек самымі блізкімі людзьмі сталі святары і сёстры з вышэйназванай парафіі. Для кожнага з іх былі падрыхтаваны наборы велікодных страваў. Са словамі віншавання і найлепшымі пажаданнямі да прысутных звярнуўся ксёндз Антоній, вікарый парафіі святога Антонія ў Віцебску. Падчас асвячэння страваў быў прачытаны ўрывак са Святога Пісання, які ўтрымліваў разважанні пра сутнасць Божай любові, міласэрнасці і пра вечнае жыццё.

Хочацца спадзявацца, што гэтыя людзі змогуць знайсці сваё месца ў грамадстве, а іх жыццёвы шлях цалкам зменіць свой кірунак дзякуючы Божай дапамозе.

*Аліна Сарокіна*



Браслаў

# Без абмежаванняў

*Няма нічога больш высакароднага, чым даць магчымасць людзям з абмежаваннямі жыць без абмежаванняў.*

**У чэрвені 2009 года адкрылася аддзяленне сацыяльнай адаптацыі, рэабілітацыі і дзённага прабывання маладых інвалідаў на базе тэрытарыяльнага Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Браслаўскага раёна.**

Прыярытэтным кірункам дзейнасці аддзялення сацыяльнай адаптацыі, рэабілітацыі і дзённага прабывання маладых інвалідаў з'яўляецца праца з маладымі людзьмі, якія маюць асаблівасці ў развіцці.

Разумеючы, што самым важным элементам самарэалізацыі чалавека з'яўляецца працоўная дзейнасць, было вырашана арганізаваць працу паліграфічнай мінімайстэрні ў Цэнтры дзённага прабывання маладых інвалідаў у Браславе.

І мара ажыццявілася. 4 красавіка 2013 года «Caritas» Віцебскай дыяцэзіі пры фінансавай падтрымцы «Renovabis» падарыў Цэнтру камп'ютар і ўсё неабходнае абсталяванне і матэрыялы для афармлення паліграфічнай майстэрні.

Цяпер асноўная задача маладых людзей з асаблівасцямі ў развіцці – авалодаць прафесійнымі навыкамі, неабходнымі для працы ў так званай малой паліграфічнай вытворчасці па вырабе блакнотаў, брашур, буклетаў, а таксама па аказанні паслуг ксеракапіявання і ламінавання.

*Антаніна Палінская*



Глыбокае

# ВЕЛІКОДНАЕ МЕРАПРЫЕМСТВА ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ «BETEL-CARITAS»

**У жыцці кожнага хрысціяніна Вялікдзень – свята асабліва ўшанаванае, бо з'яўляецца сімвалам перамогі жыцця над смерцю, святла над цемрай, дабрыні над злом, веры над безнадзейнасцю.**

**Іна Вайцяховіч**, *тэкст і фота*

Ва ўсім каталіцкім свеце абвяшчаюць гэтую вялікую радасць. Вось і ў парафіі Святой Тройцы ў г. Глыбокае Віцебскай дыяцэзіі ўжо другі дзень можна пачуць словы "Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!" 1 красавіка менавіта з гэтых слоў пачалося мерапрыемства для групы людзей з абмежаванымі магчымасцямі «Betel-Caritas» і іх бацькоў. На спатканне былі запрошаны прадстаўнікі тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва разам з тымі, хто знаходзіцца ў аддзяленні дзённага прабывання для інвалідаў. Таксама завіталі павіншаваць кс. Мечыслаў Янчышын, пробашч Глыбоцкай парафіі, і с. Тэрэза Папко, настаяцельніца кляштара сясцёр-францішканак Сям'і Марыі – заўсёдныя госці ўсіх святаў.

Спатканне праходзіла ў сяброўскай атмасферы. За святочным сталом, які падрыхтавалі парафіяльны "Карытас" і ўдзельнікі імпрэзы, са словамі віншавання да ўсіх прысутных звярнуўся кс. Мечыслаў і нагадаў: "Бог нас усіх любіць і заўсёды ёсць паміж намі. Трэба памятаць, што ўсе мы – адна сям'я."

Ад імя прысутных людзей з абмежаванымі магчымасцямі з віншаваннямі звярнулася Жанна Краснадубская: "Паважаныя ксёндз Мечыслаў і сястра Тэрэза! У светлае свята Вялікадня віншую вас і ўсіх вернікаў! Жадаю здароўя, духоўнай энергіі, паважаць і любіць, дапамагаць хворым, атуляць іх цяплом. Быць бліжэй да родных і да веры, дарыць святло і радасць. Супакою і дабрыні ў працы вам усім!"

На працягу некалькіх гадзін з твараў прысутных не сыходзіла ўсмешка. Усе з вялікім захапленнем удзельнічалі ў забаўляльных конкурсах і гульнях. Час праляцеў вельмі хутка. Людзі вярталіся дадому з добрым настроем, радасцю ў сэрцы і, канешне, з атрыманымі салодкімі падарункамі.



# ЛІЧЫЦЦА ТОЛЬКІ ЛЮБОЎ

Жыццё на Зямлі – ад Бога. І кожны чалавек, які прыходзіць у свет, нясе ў сабе Божы наказ: жыць, нягледзячы на ўсе праблемы і жыццёвыя цяжкасці. Многія людзі трацяць здароўе ў маладым узросце або ўжо нараджаюцца інвалідамі. Для кожнага інваліда і для тых, хто жыве побач з ім, гэта вялікае выпрабаванне, фізічнае і духоўнае. Людзі, якія штодзённа сутыкаюцца з такімі выпрабаваннямі, асабліва цэняць праявы дабрыні і міласэрнасці з боку іншых.

Іспанскі філосаф і тэолаг Мігель дэ Унамуна лічыць, што бессэнсоўна падзяляць людзей на здаровых і хворых. Здольнасць разумець чужы боль заснаваная на ўласным досведзе болю. Духоўнай любоўю людзі любяць адно аднаго толькі тады, калі яны зазналі той жа боль. Любіць – значыць спачуваць. Калі целы яднае асалода, то душы яднае цярпенне. У каго больш моцнае спачуванне, у таго больш моцная любоў. Пачуццё спачування і міласэрнасці не ўзнікае само па сабе, не перадаецца ў спадчыну, не вывучаецца на ўроках.

У 2003 г. дабрачыннае каталіцкае таварыства «Caritas» Віцебскай дыяцэзіі зрабіла свой першы крок у накірунку сацыяльнай адаптацыі і інтэграцыі ў грамадства маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі, арганізаваўшы клуб «Betel» у гарадах Віцебск, Глыбокае і Мёры, дзе маладыя людзі разам праводзяць час, дзеляцца сваімі праблемамі і радасцямі.

У цяперашні час цэнтры дзённага прабывання «Betel» наведваюць больш за 50 чалавек. У цэнтрах працуюць майстэрні па вырабе сувенірнай прадукцыі, у якіх маладыя людзі ствараюць сувеніры з бісеру, саломкі, гіпсу, вышываюць, малююць. Штодзённа адчынены камп'ютарны клас, дзе наведвальнікі могуць атрымаць веды і навыкі працы на камп'ютары або правесці час за гульнямі. Ёсць у цэнтрах і бібліятэкі.

Удзел у навучанні і працы маладыя людзі прымаюць па меры сваіх магчымасцяў, від дзейнасці выбіраюць самастойна. Акрамя заняткаў у цэнтрах, для маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі праводзяцца і культурна-забаўляльныя мерапрыемствы (паходы ў кіно, заапарк, цырк, музей). Напярэдадні Божага Нараджэння праводзіцца «Калядны баль».

Я часта сустракаю людзей з абмежаванымі магчымасцямі каля ўваходу ў «Caritas». Сэрца заўсёды пачынае біцца мацней, становіцца неспакойным. І я вырашыла пайсці да іх на сустрэчу. Спякла торт і пайшла да сваіх знаёмых. Па іх вачах я зразумела, што яны мяне чакалі. Аказваецца, яны мяне запомнілі, калі я на вуліцы спрабавала ім усміхнуцца. Як яны любяць салодкае, з якім смакам елі свае порцыі торта!

Аднак самай вялікай радасцю для іх быў мой візіт. Кожны хацеў са мною сфатаграфавацца, абняць мяне, паціснуць маю руку. І я зразумела, што самае галоўнае для кожнага з іх – быць любімымі. Гэта любоў, якую мы можам ім даць, робіць іх больш спакойнымі, радаснымі і шчаслівымі.

А як былі ўдзячныя іхнія бацькі! Дзякавалі за тое, што ў іх хворых, маленькіх і вялікіх дзецях бачаць нармальных людзей. Дзякавалі за сустрэчы ў «Caritas», дзе іх дзеці знайшлі свой другі дом. Дом, дзе пануе атмасфера цеплыні, дабрыні і любові.

Кветка, каб быць кветкаю, мае патрэбу ў сонцы. Чалавек, каб быць чалавекам, мае патрэбу ў любові. Як кропля вады дае кветцы сілы раскрыцца, так кропля любові можа вылечыць чалавека, дапамагчы яму знайсці страчаную надзею жыцця. Толькі вада можа перанесці пустыню. Вада – гэта жыццё. Любоў з'яўляецца вадой, якая дае жыццё.

*Ірына Кульпекша*

# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## ЗАНЯТАК ЁГАЙ – ГЭТА ГРЭХ?

*"Чаму занятак ёгай лічыцца грахом?"*
*Вольга*

**На пытанне адказвае кс. Алег Буткевіч, парафія св. Антонія Падуанскага, г. Віцебск:**



– Сярод шматлікіх практык, якія сёння чалавек імкнецца выкарыстаць для свайго духоўнага і фізічнага развіцця, вельмі папулярнае месца займае ёга, што свой пачатак і абгрунтаванне знаходзіць у філасофіі такіх рэлігій, як будызм і індуізм. Адразу трэба зазначыць, што гэта перадусім медытатыўная практыка. Фізічныя практыкаванні і малітвы, якія ўжываюцца падчас медытацыі, збудаваныя такім чынам, каб спрыяць абуджэнню існых у чалавечай натуры пэўных псіхафізічных механізмаў, што, у сваю чаргу, таксама вядзе да вызвалення заключанай у чалавеку энергіі (знакамітае адкрыццё "чакраў"). Але пры гэтым трэба ведаць: адначасова чалавек адкрывае сябе і на духоўны свет. І вось тут паўстае вельмі важнае пытанне, а нават праблема: на які духоўны свет адкрываецца чалавек праз такую медытатыўную практыку? Прычым трэба памятаць: чалавек толькі адкрывае сябе на пэўную рэчаіснасць, якой не ведае, і, не маючы над ёй ніякай улады, можа толькі здагадвацца, што здзейснены такім чынам "кантакт" яму прынясе. І, на жаль, вось так, проста, навобмацак, вельмі наіўна, мы часам запускаем у аўчарню сваёй душы драпежнага звера.

### Элементы ёгі ў хрысціянстве?

– Прыхільнікі ўсходніх відаў медытацыі нярэдка спрабуюць прыраўняць духоўную практыку хрысціянства да містыкі ўсходу: маўляў, і тут, і там захоўваюцца тыя самыя прынцыпы: ачышчэнне, асвячэнне і паяднанне, якіх нібыта можна дасягнуць уласнымі сіламі праз пэўныя практыкаванні. Аднак хрысціянства, заахвочваючы чалавека да супрацоўніцтва з Богам у справе ўласнага ўдасканалення і збаўлення, на першае месца ставіць моц і дзейснасць таго Божага дару, які мы называем ласкай. Менавіта яна, будучы прынятай чалавекам, ачышчае, асвячае і яднае яго са сваім Творцам. І пры гэтым, што таксама вельмі важна, не руйнуе, не размывае нашай індывідуальнасці, нашага ўласнага "я". Абагаўляе, але



не робіць нас роўнымі Богу. Ніхто ніколі з хрысціянскіх містыкаў, дасягнуўшы ўжо тут, на зямлі, высокай ступені паяднання з Богам, не спрабаваў параўнаць сябе з Ім, або прыпісаць сабе Ягоныя якасці.

### Самарасстварэнне

– Інакш выглядае справа з практыкай усходняй медытацыі, у тым ліку і ёгі. Ачышчэнне і асвячэнне чалавека з дапамогай практыкаванняў мае прывесці яго да такога ўнутранага стану, што практычна выглядае як спыненне ўсялякага працэсу мыслення, так званае "ачышчэнне розуму". У гэтым і дапамагае адпаведна ўсталяваны рытм дыхання і няспынна паўтаральныя мантры (малітвы). Насамрэч, такім чынам дасягаецца стан пэўнай духоўнай пустэчы, што, вядома, стварае пачуццё псіхічнага спакою, расслаблення. Нарэшце, канчатковым этапам такой медытатыўнай практыкі з'яўляецца "расстварэнне ў космасе", атаясамленне сябе з навакольным светам. Страціўшы сваё ўласнае "я", чалавек становіцца нібыта ўсюдыісным, часткай прыроды, урэшце становіцца часткай самога бога, праяўленнем якога, паводле філасофіі будызму, і з'яўляецца гэты свет. Адзін з індыйскіх гуру калісьці сказаў такія словы: «Ёга з'яўляецца карысным дарам для разумнага чалавека – яна дапаможа яму стаць мудрым. Мудрага ж яна ўчыніць богам".

### Водгук райскага саду

– А гэта ўжо, як бачым, вельмі выразнае рэха той прапановы, якую зрабіў чалавеку злы дух у Райскім садзе – стацца падобным да Бога і самому вырашаць, на якіх прынцыпах будаваць сваё жыццё. Адказ на гэтую прапанову нам добра вядомы. Чалавек не толькі не стаўся Богам, але і страціў тое, што меў: прыязную сувязь са сваім Творцам, уменне жыць у згодзе з сабой і да сябе падобнымі, з навакольным светам, і, нарэшце, страціў вечнае жыццё. А разам з усім гэтым, патрапіўшы праз грэх пад уладу злога духа, чалавек пазбавіўся яшчэ і свабоды. Гэта менавіта той дар, што як адзін з першых вярнуў нам Езус Хрытус праз сваю смерць на крыжы: знішчыў уладу злога духа над чалавекам. *"Каб мы былі вольныя, вызваліў нас Хрыстус..., таму не трапляйце зноў пад ярмо няволі"* , – сказа Апостал Павел у пасланні да Галатаў (5,1).

Такіх пастак, расстаўленых сёння злым духам на чалавека, ёсць вельмі шмат. Усялякае практыкаванне акультызму, карыстанне гараскопамі, наведавнне знахароў, варажба і, як бачым, практыкаванне ёгі і іншых усходніх медытацый, а нават прагляд ці чытанне "з цікаўнасці" акультнай літаратуры ці перадач і фільмаў (такіх, як "Гары Потэр" ці "Бітва экстрасэнсаў") хавае ў сабе сапраўды вельмі сур'ёзную небяспеку. Таму будзьма разважлівымі і крытычнымі ў тым, што нам прапануе сёння свет, каб захаваць той каштоўны дар, якім ёсць свабода ў Езусе Хрысце. Бо толькі Ён ёсць тым сапраўдным Богам, які хоча, каб мы мелі жыццё – мелі яго ў поўнай меры як тут, на зямлі, так і ў вечнасці.

---

Далёкія

## Свята ў Далёкіх

*"Усякае ліхое слова хай не выходзіць з вуснаў вашых, але толькі добрае на збудаванне супольнасці".*
Эф.4,29

8 красавіка вернікі парафіі Святога Станіслава ў Далёкіх разам з усім Каталіцкім Касцёламадзначылі ўрачыстасць Звеставання Пана. Загадзя ў кожны дом быў занесены чарговы ліст "Разам да Бога" з запрашэннем на Святую Імшу і напамінам аб тым, што важнай каштоўнасцю з'яўляецца такая чалавечая якасць, як давер. Моладзь і дзеці падрыхтавалі плакаты, якія былі размешчаны не толькі ў Далёкіх, але і ў іншых вёсках з заклікам "Дзе давер, там братэрства".

Сярод дароў, якія неслі да алтара, была запаленая свечка, таму што Езус асвятляе нашу цемру і паказвае, як жыць у праўдзе; глобус – з выказаннем жадання жыць у адзінстве і клапаціцца пра збаўленне кожнага чалавека, якога сустракаем на дарозе нашага жыцця; хлеб – з намерам перамяніць нашу працу, навуку, кожнае намаганне ў дабро для нашых блізкіх.

Падчас Святой Імшы чатырнаццацьжанчын з парафіі прынялі добраахвотную пастанову і склалі ўрачыстае абяцанне ў інтэнцыі ратавання жыцця дзіцяці.

А вечарам таго ж дня ва ўсіх была цудоўная магчымасць сходзіць да суседзяў з галінкай дрэва, на якой пачынае распускацца лісце, са словамі "Бог цябе любіць". Асабліва ў цяперашні складаны час гэтыя словы з'яўляюцца напамінам пра бязмежную Божую міласэрнасць.

***Ірына Высоцкая***




## Прыгоды на Вялікдзень

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Хачу распавесці пра Вялікдзень у маім далёкім дзяцінстве.



Калі мне было гадоў 10, мама паслала мяне ў касцёл у Сапоцкін свянціць яйкі разам з суседскай дзяўчынай, якая была старэйшая на 3 гады. Да касцёла ад нашай хаты – кіламетраў сем, а хадзілі пешшу. Я першы раз была ў касцёле. Убачыла, што людзі кладуць яйкі ў скрыначку, якая стаяла ў куточку на падлозе, падышла і паклала туды чатыры вараныя яйкі, што дала мама пасвянціць. Праз нейкі час сяброўка загадала падрыхтаваць да асвячэння яйкі. Я сказала, што паклала іх у скрынку. Суседка патлумачыла, што ў скрынцы – сырыя яйкі на гасцінец ксяндзу. Я пайшла, прысела каля скрыначкі, брала яйкі і круціла іх на падлозе (варанае яйка круціцца, а сырое – не). Але з адным яйкам я не ўгадала. Калі настаў час разгаўляцца, тое яйка трапілася майму дзядулю, які адважна стукнуў яго аб стол...

Нейкі час уся сям'я глядзела на мяне моўчкі. Я таксама маўчала, як партызан, бо сяброўка ўсю дарогу насміхалася з мяне. Мае родныя падумалі, што я вараные яйка з'ела, а сырое ўзяла з гнязда. Праз некаторы час суседка распавяла праўду пра мае прыгоды ў касцёле.

***Часлава Васільева,***
*Расоны*

# Чаму была кананізавана Жанна д'Арк?



**Адной з самых вядомых у свеце каталіцкіх святых з'яўляецца французская дзяўчына, якая жыла ў эпоху позняга Сярэднявечча і прыклала вялікія намаганні для вызвалення сваёй Айчыны ад замежных захопнікаў. Гаворка ідзе пра Жанну д'Арк. Многімі, аднак, ставіцца пад сумненне дарэчнасць яе кананізацыі: маўляў, як Касцёл мог абвясціць святым чалавека, які кіраваў войскам і заклікаў змагацца супраць іншых людзей? А як жа запаведзь «не забівай»?**

**Аляксандр Панчанка**, *тэкст; catholic.by*

Гаворачы пра св. Жанну д'Арк, часцей за ўсё ўвага звяртаецца на гістарычную ролю ў жыцці сярэднявечнай Францыі. Таму сёння яе вобраз часта выкарыстоўваецца для розных палітычных ці нацыяналістычных спекуляцый. Ёсць і іншыя крайнасці: у некаторых мастацкіх творах яна прадстаўляецца ў выглядзе чалавека фанатычнага і неталерантнага, для якога вера была апраўданнем гвалту. Канешне, абодва такія погляды не маюць нічога супольнага з рэчаіснасцю.

### Чалавек міру

На пачатку трэба адзначыць, што св. Жанна д'Арк жыла ў эпоху, калі барацьба з гвалтам ажыццяўлялася таксама з дапамогай гвалту, і іншых шляхоў для гэтага не існавала. Выкарыстанне гвалту дзеля абароны разглядалася як нешта нармальнае. Аднак, нягледзячы на агульнапрынятую ментальнасць, Жанна д'Арк была перш за ўсё чалавекам міру, чалавекам, які не любіў вайны і прагнуў спакою і справядлівасці для свайго народа.

У пацвярджэнне адданасці св. Жанны д'Арк ідэалам міру гавораць факты, занатаваныя ў дзвюх галоўных крыніцах: першая – гэта дакументы з яе абвінаваўчага судовага працэсу, а другая – з рэабілітацыйнага.

Дык вось, у зборніку абвінаваўчых дакументаў адзначаецца, што яшчэ на самым пачатку сваёй вызваленчай місіі Жанна напісала ліст да англійскага караля і французскіх вайскоўцаў. У ім яна прапанавала заключыць «сапраўдны мір у справядлівасці паміж двума хрысціянскімі народамі ў імя Езуса і Марыі». Але прапанова была адхілена. Толькі пасля гэтага Жанна д'Арк пачала вызваленчую барацьбу.

У тую эпоху яе народ апынуўся перад абліччам вялікай несправядлівасці, якая заключалася ў акупацыі, забойствах і марадзёрстве, што чынілі на яе тэрыторыі захопнікі. Сваю місію Жанна бачыла ў вызваленні Францыі і аднаўленні спакойнага жыцця. Такім чынам, для яе галоўнай мэтай было не забойства англічан, але дасягненне міру. Такога правіла яна прытрымлівалася сама і заклікала да яго сваіх салдат.

### Прыклад веры

Для кожнага католіка гэтая святая з'яўляецца перш за ўсё прыкладам глыбокай веры, паслухмянасці волі Бога і любові да людзей і Касцёла. Усё яе жыццё – гэта ўзор сапраўднага хрысціянскага жыцця. Жанна нарадзілася ў беднай сялянскай сям'і, якая не магла даць ёй добрай свецкай адукацыі, але дзякуючы прыкладу бацькоў яна атрымала моцную веру і навучылася любіць бедных і тых, хто мае патрэбу.

Вядома, што яшчэ ва ўзросце 13 гадоў яна атрымала свой першы містычны досвед. Праз голас арханёла Міхала пачула пакліканне ўмацаваць сваё хрысціянскае жыццё і спрычыніцца да вызвалення ўласнага народа. Будучая святая адразу адказала «так» і паабяцала Богу жыццё ў чысціні і малітве. Яна амаль штодзённа прымала ўдзел у св. Імшы, часта прыступала да споведзі і камуніі, падоўгу малілася перад крыжам і выявай Марыі.

Менавіта ад такога глыбокага асабістага кантакту з Хрыстом нарадзілася яе імкненне да палітычнай дзейнасці. На гэтую сувязь паміж верай і грамадскай адказнасцю звяртаў увагу Бэнэдыкт XVI у адной з катэхезаў, прысвечаных Жанне д'Арк. «Пасля гадоў схаванага жыцця і ўнутранага сталення наступіў кароткі, але насычаны двухгадовы перыяд публічнага жыцця: год дзейнасці і год пакут», – падкрэсліў тады Папа.



Шматлікія сведчанні пацвярджаюць, што разам з вызваленчай дзейнасцю св. Жанна вяла сапраўдную евангелізацыйную місію сярод салдат. Захавалася вялікая колькасць успамінаў аб яе дабрыні, адвазе і любові да цялеснай чысціні. Вайскоўцы называлі яе не інакш, як «паннай». Яе вера была сапраўднай і сталай і, канешне, не мела нічога супольнага з фундаменталізмам. Святая любіла не толькі сваіх бліжніх, але і ворагаў. У яе жыццяпісах распавядаецца, што яна плакала як над ранамі французаў, так і англічан.

### Мучаніцтва

23 мая 1430 г. пачаўся час яе пакут. Яна патрапіла ў палон да сваіх ворагаў, а пасля доўгага і драматычнага перыяду была прызнана вінаватай у ерасі і асуджана на спаленне на вогнішчы. Суддзі ўжо загадзя мелі негатыўнае стаўленне да яе. Бэнэдыкт XVI адзначаў, што яны былі «тэолагамі, якім не хапала любові і пакоры, каб убачыць ва ўчынках гэтай маладой дзяўчыны дзеянне Бога». «Суддзі Жанны былі радыкальна няздольныя зразумець яе, убачыць прыгажосць яе душы: не ведалі, што асуджаюць святую», – казаў Папа ў сваёй катэхезе.

Нягледзячы на несправядлівае асуджэнне з боку прадстаўнікоў Касцёла, Жанна д'Арк да апошняга моманту заставалася вернай Хрысту. Яна памірала, угледаючыся ў крыж, які перад ёй трымаў адзін са святароў, а на яе вуснах было імя Езуса. Яно было «подыхам яе душы, стукам сэрца і цэнтрам яе жыцця», – як сказаў Бэнэдыкт XVI.

Яе рэабілітацыя адбылася праз некалькі гадоў пасля асуджэння. У 1909 г. яна была абвешчана благаслаўлёнай, а ў 1920 г. – святой. Імя Жанны д'Арк вельмі часта ўзгадваецца ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла. Яна з'яўляецца прыкладам свецкага верніка, глыбока ўключанага ў гістарычныя буры свайго часу. Сучасным людзям Жанна д'Арк указвае на неабходнасць глыбокіх і асабістых адносін з Хрыстом, важную ролю малітвы і сакраментальнага жыцця, якія дапамагаюць у грамадскай і палітычнай дзейнасці, спрыяюць справядлівасці і міру паміж народамі.



Помнік св. Жанне д'Арк у Арлеане

# Андрусь Такінданг: "Богу хочацца дзякаваць безупынна"

**Мастак і музыка, паэт і тэлевядоўца Андрусь Такінданг нарадзіўся ў 1983 годзе ў сям'і беларускі і ўраджэнца Чада (Цэнтральная Афрыка). Скончыў мастацкі каледж імя Ахрэмчыка і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры. З'яўляючыся ўдзельнікам гурта "Recha", часта наведвае святыні з канцэртамі. У гэтым нумары Андрусь з ахвотай адкажа на пытанні "Каталіцкага Весніка".**



**– Андрусь, раскажыце, як Вы прыйшлі да Бога?**

– Прыняў хрост, калі мне было 10 год. Але аб тым, што Бог ёсць, ведаў з самага дзяцінства. Наведваў нядзельную школу пры касцёле св. Роха (Залатая Горка).

**– Распавядзіце крыху пра свае выступленні з гуртом "Recha" ў беларускіх святынях?**

– Музычны гурт "Recha" выступаў на Залатой Горцы ў Мінску. А таксама мы наведвалі вёску Лучай, Навасёлкі па запрашэнні кс. Мікалая Ліпскага. Заўсёды з вялікай радасцю адгукаліся на яго запрашэнні і музычна падтрымлівалі парафіяльныя святы. Выступалі і на фэсце ў Германавічах. Наогул, мінулым летам мы шмат выступалі на Пастаўшчыне і маем самыя цёплыя ўражанні ад канцэртаў, ад святароў і парафіянаў. Канцэрты ў невялікіх мястэчках, вёсках ля муроў касцёла маюць свой асабліва прыгожы, урачысты, вясёлы смак. Радасна далучацца да парафіяльных святаў.

**– У якія моманты свайго жыцця Вы асабліва адчувалі падтрымку Бога?**

– Падтрымку Бога ў жыцці...

Бываюць моманты, калі ўпадаю ў адчаю. Але і тады відавочная прысутнасць Бога. Нават калі няма надзеі, Бог ёсць. Здаралася – бязвыходныя сітуацыі, Бог маўчаў і выйсця не было. І толькі праз некалькі гадоў мінулыя смуткі ператвараліся на лепшае. Бог адказваў на заклік аб паратунку праз працяглы час і загойваў мінулыя раны, Ён даваў магчымасць зведаць меру цярпення. А пасля гэта цярпенне ператваралася ў радасць.

**– Хто з беларускіх хрысціянскіх дзеячаў для Вас з'яўляецца своеасаблівым прыкладам?**

– Мне падабаецца творчасць святара Язэпа Германовіча (творчы псеўданім – Вінцук Адважны). Яго жыццёвая пастава мне блізкая.

**– За што б Вы падзякавалі сёння Госпаду?**

– Нягледзячы на свае хібы і недахопы, маю ўсяго шмат. Сваякі, родныя, сям'я. Мне з імі пашанцавала. Таксама ў жыцці сустракаю багата цудоўных, цікавых людзей, якія падтрымліваюць, дадаюць радасці. Магу займацца творчасцю – гэта вялікае шчасце. У Мінску працуюць касцёлы, маем добрых святароў, ёсць магчымасць быць на Імшы, маліцца перад Найсвяцейшым Сакрамантам, карыстацца з сакрамантаў. Але перадусім Бог дае сябе самога. За гэты Дар хочацца дзякаваць безупынна.

*Гутарыла* **Ірына Грэйць**

# Велікодная сустрэча ў Лучаі: святочна, шчыра, творча



**Увесь мінулы тыдзень каталікі Беларусі і ўсяго свету працягвалі радавацца Уваскрасенню Пана. У касцёлах адбыліся ўрачыстыя службы і велікодныя сустрэчы. Не абмінула свята і вёску Лучай: 7 красавіка тут адбылося мерапрыемства, прасякнутае не толькі верай, але і творчасцю.**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;*
**Альфрэд Мікус, Карына Радзюш**, *фота*

Велікодная сустрэча пачалася з нядзельнай святой Імшы. У той дзень яна была асаблівая: споўнілася шэсць гадоў, як Лучайскую парафію ўзначальвае ксёндз Мікалай Ліпскі. Пасля заканчэння Імшы ён пачуў шмат шчырых віншаванняў і цёплых слоў.

– Гады праляцелі як адзін тыдзень, – прызнаецца святар. – Лічу служэнне ў Лучаі Божым Провідам. Менавіта сюды я прыходзіў юнаком, тут аднавіў сваю веру. Нараўне з Шаркаўшчынай – гэта мая другая малая радзіма. Таму, кіруючы гэтай супольнасцю, адчуваю вялікую адказнасць. Рабіў і буду рабіць усё магчымае на карысць Касцёлу і людзям.

Якія здабыткі ксёндз лічыць галоўнымі за гады святарства? Па-першае, навяртанне людзей. Святара асабліва радуе, што ў касцёл прыходзіць усё больш моладзі, дзетак з бацькамі, а гэта ж будучыня касцёла. "Дзякуючы нашым бабулям вера перададзеная наступным пакаленням, і вельмі важна, каб мы яе ўзмацнялі і жылі паводле яе", – упэўнены Мікалай Ліпскі.

Па-другое, зацікаўленасць да Лучая ў апошнія гады вельмі вырасла: на шматлікія святы сюды прыязджаюць вернікі з самых розных парафій. Усё большая колькасць людзей наведвае ў гэтыя мясціны не толькі палюбавацца маляўнічымі краявідамі, але таксама пазнаць гісторыю і, канечне, памаліцца.

– Гэта праца ўсіх нас, – падкрэслівае святар. – Разам мы многае зможам. І надалей будзем старацца радаваць парафіян культурніцкімі беларускамоўнымі імпрэзамі, якія ўжо сталі традыцыйнымі. Дзякуй Богу, творцы адгукаюцца на нашы прапановы падзяліцца сваім талентам у сценах храма. Тым самым мы адкрываем вернікам неверагодна цікавы свет песні, паэзіі. Як можна не захапляцца роднай культурай?!

У той дзень Лучай таксама сустракаў ганаровых гасцей – маладога паэта Усевалада Сцебураку і вядомага беларускага барда Змітра Бартосіка. Яны падаравалі прысутным сапраўднае свята творчасці: прагучалі пранікнёныя, ад сэрца вершы, а таксама песні на словы класічных Акуджавы, Высоцкага… Прычым прагучалі пабеларуску: іх на родную мову па-майстэрску пераклаў Рыгор Барадулін.

– Уражанні ад вандроўкі ў Лучай толькі станоўчыя, – расказаў пасля завяршэння свята Усевалад Сцебурака. – Па-першае, уразіла само месца – мая ўлюбёная Заходняя Беларусь, край прыгожых азёраў і лясоў. Па-другое, мясціны блізкія да маёй малой радзімы – Вілейкі. Патрэцяе, сам факт выступлення ў касцёле пакідае шэраг эмоцый. Не выказаць уражанні, якія адчуваеш, калі стаіш у храме тварам да паспольства. Гэта асалода, якую цяжка з чымсьці параўнаць. А акустыка – проста дзіўная! Здаецца, радкі набываюць новае гучанне – больш глыбокае і важкае…

– Радуе неабыякавасць людзей да беларускай культуры, – падзяліўся ўражаннямі Зміцер Бартосік. – Нягледзячы на халоднае надвор'е, многія парафіяне засталіся на наша выступленне. У вачах публікі я бачыў жывую зацікаўленасць, мне падалося, людзі разумелі тое, што я спяваў. Спадзяюся, гэта не апошняя сустрэча з лучайскай публікай.

Вернікі прытрымліваюцца такой жа думкі.



Выступае Зміцер Бартосік

# Яны навучылі нас любіць...

**Свае ўспаміны пра продкаў, а таксама словы падзякі і любові да іх скіруюць у сённяшнім нумары чытачы "Каталіцкага Весніка".**

***Падрыхтавала Ірына Грэйць***

**а. Андрэй Юхневіч OMI:**



– Я памятаю толькі адну сваю бабулю – Яніну, бо астатнія памерлі шмат гадоў таму. Асабліва прыпамінаю выпадак, калі яна, ужо знямоглая і хворая, была дома, а мы жалі жыта. Мне было, можа, 13 год. Жалі мы сярпамі. Не ўмеючы добра жаць сярпом, я, канешне ж, парэзаў сабе пальцы. Прыбег да бабулі. Яна дапамагла агледзець рану. А потым, хоць знясіленая і хворая, бо ўжо з ложка не ўставала, сказала: "Унучок, завядзі мяне на поле. Я хоць на каленях за вамі каласы збіраць буду". Гэтая яе сіла і жаданне дапамагаць, жаданне працы засталіся ў маёй памяці. Шчыра кажучы, я бачу рэха жыцця бабулі ў маёй маці, якая прысвяціла сябе дзецям, якая часта паўтарае словы, прыказкі і прымаўкі свайёй матулі. Я ўдзячны маім продкам за тое, кім сталі мае бацькі, і за тое, кім стаў я.

**Наталля Брэхун:**



– Я вельмі люблю бабулю і дзядулю. За што? А за тое, што і яны мяне любяць усім сваім сэрцам, знаходзяцца побач у любых цяжкіх сітуацыях і заўсёды гатовыя прыйсці мне на дапамогу. Дзякуючы бабулі я навучылася бачыць прыгожае ў самых простых рэчах, што знаходзяцца вакол мяне. Таксама вялікі дзякуй хочацца сказаць сваёй бабулі за тое, што яна мяне прывяла да Бога. За тое, што з маленства вадзіла мяне ў касцёл і вучыла малітвам, за тое, што расказвала і расказвае, які Бог міласэрны і ласкавы. А дзядулю я хачу сказаць вялікі дзякуй за яго бязмежную любоў да мяне. Яго ўжо няма са мной, але ён заўсёды побач – у маім сэрцы. Кожны раз, наведваючы яго магілку, я расказваю, што ў мяне новага ў жыцці, бо мне так не хапае яго.

**Вераніка Велігор:**

– Памятаю толькі бабуль і дзядуль. Яны, на жаль, ужо адышлі ў вечнасць. Успаміны пра іх у мяне заўсёды светлыя і цёплыя. Менавіта бабуля навучыла мяне першай малітве "Ойча наш". Разам з дзядулем яны тлумачылі мне гэты свет той моваю, якую я разумела. Аднойчы я спытала: "Бабуля, чаму котка мурлыкае?" Тады яна мне адказала: "Котка да Бога моліцца. Таму і твая малітва павінна быць такой лёгкай, цёплай, ад сэрца, каб ты была шчаслівая". Яны вучылі мяне любіць гэты свет і прымаць усё такім, як ёсць. Але не проста вучылі, а паказвалі сваімі прыкладамі. Вось за гэта я ім вельмі ўдзячная.

**Віялета Грыва:**



– Вялікі дзякуй маім любімым бабулям і дзядулям. Яны пастаянна выхоўвалі мяне, дапамагалі духоўна развівацца. Калі я яшчэ не хадзіла ў школу, заўсёды заставалася дома з дзядулем. Памятаю, што прыходзіла да яго, сядала на калені. Мы разам чыталі маю любімую кнігу пра трох парасят.

**Уладзімір Місцяровіч:**



– Прыпамінаю, што бабуля заўсёды давала мне парады ў пэўнай справе. Я ж не слухаў і рабіў усё па-свойму. Але заўсёды ўсё выходзіла так, як казала бабуля. Дзядуля і бабуля вучылі мяне ўсё рабіць прадумана. Дзякуючы свайму дзядулю я ўмею шмат рэчаў рабіць сваімі рукамі.

# Вялікодная радасць у Бягомлі

**У самае вялікае хрысціянскае свята – Вялікдзень – валанцёры парафіяльнага "Карытас" з Глыбокага не змаглі застацца дома. Яны з радаснай весткай, што Хрыстос уваскрос, наведалі Бягомльскую школу-інтэрнат для дзяцей-сірот.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;*
**кс. Віктар Місевіч**, *фота*



Са словамі прывітання да ўсіх прысутных звярнуўся кс. Віктар Місевіч, пробашч парафіі Хрыста Валадара ў Бягомлі. "Бог вас вельмі любіць і хоча, каб кожны чалавек жыў вечна, бо за нас Езус аддаў сваё жыццё. Не забывайце, што Езус уваскрос і Ён жывы. Са святам!" – павіншаваў кс. Віктар.

Святочнае мерапрыемства праводзілі Кот Матроскін (Таццяна Працук) і Велікодны Заяц (Настасся Развадоўская), якія расказалі выхаванцам пра Вялікі Трыдыум, традыцыі святкавання Пасхі і афарбоўкі яек.

Усе дзеці з радасцю і вялікім захапленнем удзельнічалі ў забаўляльных конкурсах і гульнях: шукалі папяровыя яйкі, размалёўвалі іх і, канешне, гулялі ў біткі яйкамі-крашанкамі, якія падарылі парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім.

Напрыканцы святочнай праграмы ўсе выхаванцы і выхавальнікі атрымалі салодкія падарункі. Скончылася спатканне агульным зваротам да нашага Нябеснага Айца са словамі малітвы "Ойча наш", падчас якой усе прысутныя ўзяліся за рукі. Пасля кс. Віктар удзяліў Божае Бласлаўленне і нагадаў: "Хрыстос Уваскрос!" З вуснаў дзяцей у адказ радасна прагучалі словы: "Сапраўды Уваскрос! Дзякуй вам!"





# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ



## Як змагацца з грахамі?

*“Хвала Хрысту! Ці павінен я прадстаць перад Богам жабраком і даць яму змагацца з маімі грахамі? А можа, лепей калі я сам з імі пачну змагацца?”*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR, парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі, г. Мінск:**

– Сакрэт людскога быцця – у тым, што ўсе людскія справы нічога не вартыя без Божай ласкі. Чалавек не мае ў сабе, у сваёй прыродзе такой сілы ці патэнцыялу, каб самастойна дасягнуць дабра. Хрыстос казаў: “Будзьце ўва Мне, і Я – у вас. Як галінка не можа пладаваць сама з сябе, калі не будзе на вінаградным ушчэпе, так і вы, калі не будзеце ўва Мне. Я – вінаградны ўшчэп, а вы – галіны. Хто прабывае ўва Мне, і Я – у ім, той прыносіць многа пладоў, бо без Мяне вы не можаце нічога зрабіць” (Ян. 15, 4-5).

Як гэта выглядае на практыцы, цудоўна апісаў у сваім пасланні апостал Павел: “Я нават не разумею, што раблю, бо не раблю таго, чаго хачу, але тое, што ненавіджу, раблю. А калі раблю тое, чаго не хачу, тады прызнаю, што закон – добры. Тады ўжо не я раблю, але грэх, што жыве ўва мне. Бо я ведаю, што ўва мне, значыць у целе маім, не жыве добрае, бо жаданне рабіць добро ёсць ува мне, але зрабіць дабро, таго не знаходжу. Бо не раблю дабра, якога хачу, але раблю тое зло, якога не хачу. А калі раблю тое, чаго не хачу, значыць, што не я ўжо гэта раблю, але грэх, што ўва мне жыве. Дык вось знаходжу ў сабе закон, што, калі хачу рабіць дабро, накідваецца на мяне зло. Бо паводле ўнутранага чалавека захапляюся законам Божым, але ў членах маіх адчуваю іншы закон, які працівіцца закону майго розуму ды бярэ мяне ў няволю закону грэху, каторы ёсць у членах маіх. Нешчаслівы я чалавек! Хто вызваліць мяне ад гэтага цела смерці? Дзякуй Богу праз Ісуса Хрыста, Госпада нашага!” (Рым. 7, 15-25)

Сапраўды, хто пераможа мае грахі? Толькі Ісус Хрыстос. Але якім чынам? Чалавек быў створаны свабодным. І Бог як бы не хацеў дапамагчы нам вызваліцца ад зла, не можа нас прымусіць прыняць Ягонае збаўленне. Божая ласка – гэта палова справы, так як і палова справы – нашае жаданне выправіцца. Для поспеху ў кожным выпадку патрэбнае паяднанне гэтых частак – нашага жадання і Божай ласкі.

**Св. Альфонс Лігуоры** называе пяць сродкаў набліжэння да дасканаласці: жаданне быць дасканалым, пастанова імкнуцца да яе, духоўныя разважанні, частае Святое Прычасце і малітва.

**Св. Тэрэза Авільская** на гэты конт пісала ў сваіх лістах: «Трэба мець вялікія жаданні, бо праз іх прыйдзе наша дабро». У іншым месцы кажа: «Не варта змяншаць жаданняў, але давяраць Богу, што, калі прыкладзём трохі працы, паволі прыйдзем туды, куды з Божай ласкай дайшло шмат святых». Але мала імкнуцца да дасканаласці, калі цвёрда не пастановім дасягнуць яе. Колькі душаў песцяць сябе толькі жаданнямі і не робяць ніякага кроку на шляху да Бога. Лянівы чалавек заўсёды чагосьці хоча, але ніколі не адважыцца прыкласці намаганні, каб стаць святым! Св. Тэрэза піша: «Бог не жадае ад нас нічога іншага, як толькі нашай пастановы, каб потым Ён мог зрабіць усё». І менавіта гэтаму служыць малітва разважанняў – схіляе нас да выкарыстання належных сродкаў, якія вядуць да дасканаласці. Некаторыя шмат моляцца, але падчас сваіх малітваў не робяць ніякіх пастаноў. Св. Тэрэза казала: «Больш бы раіла кароткую малітву, якая прыносіць лепшы плён, чым тую, якая доўжыцца шмат гадоў, але не схіляе сэрца рабіць для Бога сапраўды нешта істотнае». Праўда, што ўсіх нашых намаганняў без Божай дапамогі недастаткова, каб перамагчы спакусы, але Богу падабаецца, каб мы часта іх прымалі і супрацоўнічалі з Ім, а потым Ён Сам пакрывае нашы старанні Сваёй ласкай, умацоўваючы нас, нямоглых, і дапамагае атрымаць перамогу. Пастанова ліквідуе перашкоды, якія абцяжарваюць нам рух наперад, і адначасова дадае нам шмат адвагі, бо запэўнівае нас, што знаходзімся ў ласцы Божай.

**Св. Францішак Сальскі** піша: «Упэўненасць, што знаходзімся ў ласцы Божай, якую можам мець у гэтым свеце, не складаецца з нашых пачуццяў да Бога, а заключаецца ў чыстым і бясспрэчным адданні нашага жыцця ў Яго рукі, а таксама ў цвёрдай пастанове ніколі не паддацца ніякаму граху, як вялікаму, так і малому». Хто адмаўляецца ад малітвы разважанняў – перастае любіць Езуса Хрыста. Разважанне з'яўляецца нібы блаславёным горнам, дзе разгараецца і захоўваецца агонь святой любові.

**Св. Кацярына Булонская** сцвярджала: «Хто не практыкуе разважанне, той пазбаўляе сябе повязяў, якія злучаюць душу з Богам. Тады д'ябал, сустрэўшы чалавека, халоднага ў любові Божай, не будзе мець перашкодаў спакусіць яго пакаштаваць атрутны яблык».

Безумоўна, вялікім сродкам для барацьбы са сваімі дрэннымі схільнасцямі з'яўляецца Еўхарыстыя. Яна, як сцвярджае Трыдэнцкі Сабор, ачышчае нас ад лёгкіх грахоў і беражэ перад смяротнымі. **Св. Тамаш Аквінскі** піша, што Св. Прычасце абясшкоджвае падкопы д'ябла, а **св. Ян Залатавусты** сцвярджае, што яно ўлівае ў нас вялікую схільнасць да цнотаў і гатоўнасць іх практыкаваць, даючы адначасова такі вялікі спакой, які робіць лёгкай і салодкай дарогу да дасканаласці.

**Вялебны айцец Ян Авільскі** так казаў: «Хто аддаляе душу ад частага Прычасця, выконвае д'ябальскую паслугу». Пяты сродак, неабходны для духоўнага жыцця і любові Езуса Хрыста, – гэта малітва. Малітву можна назваць ўсемагутнай, бо ў Бога яна можа атрымаць кожнае дабро: «Яна адзіная можа ўсё», – піша св. Тэадор. Той, хто моліцца, атрымлівае ад Бога ўсё, чаго жадае, у тым ліку перамогу над сваімі грахамі.

Такім чынам, для перамогі над сваімі грахамі нам трэба ўзяцца за справу – з Божаю дапамогаю. У кожным чалавеку змагаюцца два ваўкі – добры і злы, Божая ласка і грэх. Перамагае той воўк, якога мы кормім. Таму адкрыйма дарогу Божай ласцы – нашым жаданнем і імкненнем да дабра, і ўмацуйма яе – разважаннем, малітвай і Святым Прычасцем!

## Віктарына “Спазнаём Біблію”

**Прапануем вам праверыць свае сілы ў віктарыне на агульнае веданне Новага Запавету:**

**1. Хто навярнуў да Хрыста Карнэлія Сотніка?**

а) апостал Тамаш
б) апостал Пётр
в) апостал Філіп
г) апостал Павел



**2. Хто быў абраны дванаццатым апосталам на месца Юды Іскарыёта?**

а) Юзаф
б) Павел
в) Мацвей
г) Марк

**3. Пазначце другое імя апостала і евангеліста Мацвея:**

а) Ян
б) Левій
в) Пётр
г) Якуб

**4. З якой падзеяй звязваюць нараджэнне Касцёла?**

а) Унебаўшэсце Хрыста
б) Спасланне Духа Святога
в) Перамяненне Пана на гары Табор
г) Унебаўзяццце Дзевы Марыі

**5. У якім узросце Езус Хрыстус прыняў хрост?**

а) 20 г.
б) 30 г.
в) 33 г.
г) 40 г.

**6. Дзе Саул (Павел) паверыў у Хрыста?**

а) на шляху ў Дамаск
б) на шляху ў Афіны
в) на шляху ў Вавілон
г) на шляху ў Іерусалім

**7. Колькі часу Езус пасціўся ў пустыні?**

а) 2 дні
б) 3 тыдні
в) 1 год
г) 40 дзён

**8. Дзе Езус Хрыстус учыніў першы цуд?**

а) у святыні
б) на гары Табор
в) на Сінайскай гары
г) на вяселлі

**9. Пазначце другое імя апостала Пятра:**

а) Сымон
б) Мацвей
в) Андрэй
г) Саул

**10. Якім чынам зараблятаў на жыццё апостал Павел?**

а) вырабляў намёты
б) працаваў аратарам
в) займаўся рыбнай лоўляй
г) працаваў цесляром

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 13

# ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

## Ці можна спавядацца ў розных святароў?

*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці можна спавядацца ў розных святароў?"*
*Вольга, 17 гадоў*

**На пытанне адказвае кс. Антоній Лагунёнак, парафія св. Антонія, г. Віцебск:**



– Кодэкс Кананічнага права ў кан. 965 кажа, што распарадчыкам сакраманту споведзі з'яўляецца толькі святар. Святары выконваюць гэтую паслугу ў лучнасці з біскупам. Таму да важнасці споведзі трэба, каб святар, апроч пасвячэнняў, меў таксама дазвол ад біскупа на выкананне гэтай паслугі ў адносінах да вернікаў, якім удзяляе гэты сакрамант.

Роля пастаяннага ці непастаяннага спаведніка ў агульным аднолькавая і вынікае з самой сутнасці сакраманту споведзі. Аднак рэкамендуецца выбар пастаяннага спаведніка тым, хто прагне не толькі прабачэння грахоў, але і дапамогі на дарозе духоўнага жыцця. Вернік такога спаведніка выбірае сам і стараецца, прынамсі, раз на месяц у яго спавядацца. Трэба зазначыць яшчэ раз, што пастаянны спаведнік не лічыцца неабходным, а споведзь у розных спаведнікаў таксама з'яўляецца сапраўднай і нясе духоўную карысць верніку.

## Як пачуць голас Бога?

*"Скажыце, калі ласка, як пачуць голас Бога сярод «шуму» нашага жыцця і адчуць, што менавіта Бог, а не мой розум альбо штосьці іншае, кліча мяне да спаўнення свайго жыццёвага паклікання?"*
*Аня, 23 гады*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR, парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі, г. Мінск:**



– Да спаўнення нашага жыццёвага паклікання нас можа клікаць толькі Бог. Ён, Які прывёў кожнага чалавека ў гэты свет і вызначыў наша месца і своеасаблівую місію ў гэтым свеце, на працягу ўсяго нашага жыцця будзе заахвочваць нас і клікаць на гэты шлях. Нават калі мы, ідучы за сваёй воляй, будзем адхіляцца ад гэтага напрамку, Госпад далей будзе намагацца навярнуць нас. Бо гэты шлях, шлях нашага жыццёвага пакліканя, ёсць найлепшым для чалавека, ёсць тым, дзе чалавек можа найпаўней рэалізаваць свае здольнасці з карысцю для сябе, для супольнасці людзей і, вядома, для Бога.

Чалавек як істота свабодная ў сваім выбары можа прыняць Божую волю або адкінуць яе, абраўшы свой шлях, як зрабілі, напрыклад, Эва і Адам. Аднак, адкідаючы Божую волю, мы заўсёды абіраем горшы для сябе варыянт. Таму, безумоўна, кожнаму з нас варта знайсці тое месца ў жыцці, на якім нас хоча бачыць Госпад.

Як адрозніць Божы поклік ад нечага іншага? Найпершым сродкам тут будзе штодзённая малітва ў намеры пазнаць Божую волю. Магчыма, гучыць банальна і шаблонна, але іншай кропкі адліку няма. Калі кожны дзень будзем маліцца хаця б адзін раз "Ойча наш" з просьбай да Бога паказаць наш шлях, Яго рука з радасцю павядзе нас у патрэбным напрамку. Як гэта будзе выглядаць на практыцы – кожны пабачыць на ўласным досведзе, і пабачыць гэта абавязкова! Пэўным індыкатарам тут выступае радасць і задавальненне. Як выказаўся блаславёны Ян Павел ІІ, "пакліканне – гэта тое, што мне ўдаецца рабіць найлепш і ў чым я найбольш развіваюся". На дарозе паклікання ісці прыемна і цікава, а цяжкасці, якія абавязкова будуць сустракацца, лёгка пераадольваюцца. І наадварот, самавольна абраны шлях будзе складаным, за словамі Хрыста да апостала Паўла: "Цяжка табе ісці супраць ражна" (Дз. 26, 14).

Як у кожнай іншай справе, дзеянне Божае павінна дапаўняцца дзеяннем людскім. Таму нам, хто шукае і хоча знайсці свой шлях, трэба дазволіць Богу дзейнічаць у нашым жыцці. Неабходна адкінуць уласны эгаізм і карыслівыя інтарэсы. "Не ўпадабняйцеся гэтаму свету, але пераменьвайцеся праз аднаўленне розуму, каб умелі пазнаць, якая ёсць воля Божая, што добрае і прыемнае Богу ды дасканалае" (Рым. 12, 2). Наш пошук павінен быць скіраваны на любоў Бога і бліжняга, а не на дасягненне асабістых інтарэсаў.

Такім чынам, кожны дзень просячы Госпада пазнаць Яго волю і абіраючы тое, што паслужыць для дабра іншых людзей і на Божую славу, адкідаючы асабісты карыслівы інтарэс, мы будзем прыведзены Божым Провідам туды, дзе нас хоча бачыць Бог.

## Як касцёл ставіцца да метаду распазнавання плоднасці?

*"Добры дзень! Мяне цікавіць такое пытанне: як касцёл ставіцца да метаду распазнавання плоднасці? Дзякуй!"*
*Вольга*

**Адказвае кс. Антон Лагунёнак, парафія св. Антонія, г. Віцебск:**



– У Святым Пісанні чытаем пра заданне мужчыны і жанчыны: "Будзьце плоднымі і размнажайцеся, каб засялілі зямлю і падпарадкавалі яе сабе" (Быц 1, 28). Таму адной з асноўных задачаў хрысціянскай сям'і з'яўляецца служба жыццю. Дзеці – гэта бясцэнны дар Божы, а бацькоўства – Божае пакліканне. Касцёл не раз кажа пра адказнае бацькоўства, таму рашуча асуджае аборты, эўтаназію і рознага кшталту забойствы. Ён не прызнае кантрацэпцыю і так званае рэгуляванне дзетанараджэння, а навучае свядомаму і адказнаму бацькоўству, якое часам называецца "рэгуляваннем зачаццяў".

Адказнае бацькоўства азначае адказнасць за сужэнца, за дзяцей, а таксама за Касцёл і народ. Адказнае бацькоўства – гэта магчымасць мець столькі дзяцей, колькі бацькі змогуць выхаваць. У энцыкліцы папы Паўла VI «Humanae vitae» чытаем, што "калі ёсць слушныя прычыны для таго, каб рабіць перапынкі паміж нараджэннем дзяцей,... Касцёл навучае, што сужэнцам можна браць пад увагу натуральны цыкл жанчыны, уласцівы функцыі нараджэння, і мець стасункі толькі ў перыяд няплодных дзён, рэгулюючы такім чынам колькасць зачаццяў без парушэння маральных прынцыпаў" (HV 16). Гаворка ідзе пра метады распазнавання плоднасці, дзякуючы якім можна дакладна акрэсліць магчымы перыяд зачацця дзіцяці.

Вядомы 4 такія метады:
- каляндарны метад Агіна-Кнаўса;
- тэрмічны;
- авуляцыі Білінгсаў;
- сімптаматычна-тэрмічны.

Адказнае бацькоўства патрабуе ведання гэтых метадаў. Яны заснаваныя на штодзённым самакантролі жанчыны, каб вызначыць, у якой стадыі цыклу яна знаходзіцца. Гэта дазваляе сужэнцам набыць неабходныя веды для прыняцця сумеснага адказнага рашэння – мець блізкасць ці ўстрымацца ад яе.



## Што патрэбна для паступлення ў семінарыю?

*"Пахвалёны Езус Хрыстус! Скажыце, калі ласка, якія ўступныя экзамены здаюцца пры паступленні ў духоўную семінарыю?"*
*Міхась, 17 год*

**Адказвае кс. Валеры Марціноўскі (парафія Езуса Міласэрнага, г. Віцебск):**

– Кандыдат павінен паказаць свае веды па асноўных тэмах з катэхізіса і актуальнага жыцця каталіцкага Касцёла.

Прадаставіць наступныя дакументы:
- Уласнаручна напісаную заяву аб прыняцці ў семінарыю з матывацыяй свайго рашэння;
- Уласнаручна напісаную аўтабіяграфію;
- Атэстат аб сярэдняй адукацыі альбо дыплом аб заканчэнні іншай навучальнай установы;
- Пасведчанне аб сакраманце хросту;
- Пасведчанне аб сакраманце канфірмацыі;
- Характарыстыку ад пробашча;
- Пасведчанне аб удзеле ў катэхезе;
- Медыцынскую даведку (форма 086);
- Пашпарт і яго ксеракопію (старонкі 31-33);
- Ваенны білет (прыпісное пасведчанне) і яго ксеракопію;



- 4 фотаздымкі (як на пашпарт).

У семінарыю прымаюцца кандыдаты ва ўзросце да 30 гадоў.

Кандыдат павінен быць католікам, які практыкуе (не менш чым тры гады), і валодаць неабходнымі якасцямі для будучага святарскага служэння.

# Выбор идеальной жены?

Юрий Романюк, *психолог*

**Для того, что бы выбрать идеальную жену, Вам нужно:**
**а) Внимание, наблюдательность, иметь «трезвый» ум и сознание;**
**б) Умение владеть собой, целеустремленность, оптимизм!**

Обратимся к статистике по Республике Беларусь по количеству разводов и браков. Приблизительно за январь – февраль мы имеем соотношение 50 на 50: из 1000 браков более 500 пар решили, что их желание быть вместе было ошибочным. Страшненько? Я думаю, данная ситуация говорит о том, что молодые люди к выбору своей половинки подошли несознательно и выбор этот сделали неправильно. Вот и хочется с вами поделиться самыми распространенными ошибками.



## Чувство влюбленности

Щелк – и в голове уже играет пожар страстей и чувств, и все другое вам нипочем. Вам кажется, что уже завтра можете стать под венец и всю оставшуюся жизнь прожить с любимой и неповторимой. Но не так быстро. Наблюдаемый синдром влюбленности недолговечен и в конце окажется, что это просто сексуальное желание и притяжение. Ваши гормоны сыграли с вами шутку. Как говорят в народе, «химия любви» прекрасна, но недолговечна. Чтобы действительно узнать глубину ваших отношений, нужно «протестировать» свой объект желаний. Обратите внимание на то, как ваша избранница реагирует на жизненные обстоятельства. Что ей важно: поступать правильно или так как ей удобно? Обратите внимание на то, от чего она получает огромную радость, как она ведёт себя с людьми, перед которыми не надо быть приветливой и улыбчивой. Деликатная ли она с окружающими её людьми? Умеет ли радоваться жизни и нести позитив? Хотели бы вы, чтобы у вас с ней были дети, которые будут похожи на неё? И, наверное, самый главный вопрос: сможете ли на нее положиться в трудный момент?



## После свадьбы измениться

«Сколько волка не корми, а он всё равно в лес смотрит». Очень часто замечая что-то негативное в нашей будущей половинке, мы надеемся, что в будущем её перевоспитаем, изменим. Что ж, удачи. Но знайте: у каждого из нас есть свои «десять заповедей», которые мы вынесли из своей семьи, которые очень редко меняются, а некоторые – никогда. Маленький классический пример из жизни: в вашей семье посуду моют после каждого принятия еды, то есть, три раза в день. А в семье вашей избранницы – раз в день, вечером. И вам приходится искать совместное решение, которое удовлетворяло бы двоих. В таких и подобных случаях вы должны быть уверены в том, что сможете принять её такой, какой она есть на данный момент жизни.

## Ты скажи, чего ты хочешь

Очень часто молодые люди женятся, даже не вдумываясь, в чём нуждается противоположный пол. Мы не говорим сейчас о материальном желании, а говорим об эмоциональных потребностях. Принимая осознанное решение о супружестве, мужчина должен понимать, что мир эмоций женщины кардинально отличается от мужского. И перед ним, мужчиной, стоит ой какое непростое задание: научиться дарить жене радость и уважение.

Говорят, женщина любит ушами, но это не всегда верно. Женщина должна чувствовать, что её любят, и видеть знаки внимания со стороны избранника. Временами не нужно слов любви, а важнее помыть посуду.

## Жизненная цель и интересы

В длительных отношениях двух людей очень большую роль играют три основных условия: духовное взаимопонимание, общие интересы, общие жизненные цели. Реализация этих условий сохраняет все краски и радости общения. А в будущей семейной жизни взаимопонимание даст вам возможность психологического и душевного развития.

## Хороша ложка к обеду

Много молодых людей перед вступлением в супружество стараются поэкспериментировать в области интимных отношений или устроить для своей возлюбленной тест на «сексуальность». Те молодые люди, которые допускают подобное, просто не понимают ценности таких отношений в супружестве. Только настоящая близость между мужчиной и женщиной, защищённая оформленными отношениями, дает чувство удовлетворенности и счастья. В другой ситуации всегда есть страх и недоверие, которые не дают в полной мере почувствовать родство душ и проникнуть в самые глубины сознания партнера.

Дорогие мужчины! Ваше неумение сдерживать свою сексуальность для вас же возвращается «слепостью». Эмоции и желания лишают вас возможности трезво оценить вашу партнершу, её характер и душевные качества. И даже если начали замечать, что что-то идёт не так в ваших отношениях, повернуть вспять будет очень нелегко. Такого рода отношения толкают на определённую ответственность. Так что когда готовитесь со своей избранницей к супружеству, очень хорошо подумайте, стоит ли рисковать. И помните: ложка хороша к обеду!

## Бедный я и несчастный

Очень часто в решении жениться мужчина ищет возможности убежать от своего одиночества, чувства неудовлетворённости собой и своей жизнью. Решение, принятое в таком эмоциональном состоянии, приносит временное успокоение, но не даёт решения проблемы. Супружество не решит ваших психологических и эмоциональных проблем. Они находятся внутри вас. И их решение находится в ваших руках. Постарайтесь уже сейчас стать счастливым.

## Вся жизнь игра, и люди в ней актёры

Вы готовы к ответственному шагу супружества. Поставьте перед собой несколько простых и глубоких вопросов. Не приходилось ли вам в отношениях с будущей супругой играть роль пай-мальчика с целью понравиться? Как она отреагирует на то, что вы будете самим собой? Как вы себя чувствуете, находясь с ней в кругу друзей и знакомых? Воспринимаете ли её как верного и надёжного друга? Боитесь ли вы открыто сказать ей то, что думаете, даже когда знаете, что ваши взгляды не совпадают?

Вы женитесь, так как вам приятно, что девушка, которая вам нравится, зависима от вас и без вас не может принять ни одного решения? Очень часто это означает, что ваша избранница не имеет самостоятельности и ответственности. Эмоциональный состав такого человека всегда нуждается в зависимости. Вчера – от родителей, сегодня – от вас, а завтра… неизвестно. Чтобы семья стала действительно единым целым, её должны составлять цельные личности, готовые принять друг друга, принять историю жизни другого, его принципы и желания.

В семейной жизни встречаются не только радости, но и печали. Нет ни одной семьи, которая избежала бы сложных ситуаций и конфликтов, которая не прошла бы через кризис взаимоотношений. Перед тем как принимать судьбоносные решения, очень важно знать вам обоим: сможете ли вы быть открытыми на диалог, сможете ли услышать друг друга и взаимно дарить благо, которое называется любовь.

# ЦІ ЦЯЖКА ЖЫЦЬ ЖАНЧЫНЕ Ў ВАТЫКАНЕ?



Магдалена разам з дачкой падчас малітвы швейцарскіх гвардзейцаў



На руках у таты-гвардзейца

**Магдалена Валіньска-Рыедзі (Magdalena Wolińska-Riedi), жонка афіцэра Швейцарскай гвардыі і дактарантка ў Грыгарыянскім універсітэце, расказвае часопісу „Wprost" аб жыцці ў Ватыкане: як часта бачыць папу, што дае Ватыканскі пашпарт і колькі такіх дакументаў існуе ўвогуле, што думае пра асобу новага Папы і інш.**

**– Ці сустракаеце Папу падчас сняданку?**

– Падчас сняданку не. Але на шпацыры ў садах часамі так. Нават сёння я бачыла Папу на двары св. Дамаса перад аўдыенцыяй з кардыналамі ў Клеменцінскай зале. Спадзяюся, што правілы не зменяцца і я далей буду мець шчасце сустракаць Святога Айца ў Ватыкане. Можа, мяне не выкінуць?

**– А Ваш муж тады можа запратэставаць?**

– Давайце падкрэслім каштоўнасць жанчыны ў Ватыкане: я магла б запратэставаць.

**– Ці цяжка жыць жанчыне ў Ватыкане?**

– Наадварот, лягчэй. Нас няшмат, усе нас ведаюць, і мы адчуваем сябе прывілеявана. Канешне, ёсць і абвастрэнні. Муж стаяў каля дзвярэй Сіксцінскай капэлы ў часе канклаву, меў службу ў доме св.Марты ў першую ноч пасля абрання Папы. Я тут знаходжуся як прыватная асоба. Але вельмі шмат прывілеяў мяне датычаць.

**– Што дае пашпарт Ватыкана?**

– Кардыналы маюць дыпламатычныя пашпарты. Мы легітымізуемся грамадзянскімі, але нармальна перасякаем межы. Толькі што не патрэбная віза ў ЗША і на мяжы заўсёды выклікаем цікавасць памежнікаў. Такіх дакументаў усяго, можа, толькі 25 у свеце. Іх лічба вырасла, калі нарадзіліся мае дочкі. Аднак важныя таксама ўнутраныя правы ў Ватыкане – служба здароўя, даходы без падаткаў. На ватыканскія рэцэпты купляем лекі за сімвалічныя 1.50 еўра. Ведаеце, баюся, што пасля гэтай размовы ўсе захочуць пасяліцца ў Ватыкане.

**– А хто мае права атрымаць такі пашпарт?**

– Іх атрымліваюць, галоўным чынам, жонкі ўсіх пападафіцэраў і афіцэраў Швейцарскай гвардыі са згоды сакратара стану. Большасць асобаў, якія жывуць на тэрыторыі Ватыкана, не з'яўляюцца яго грамадзянамі. Нашым мужам, якія служаць, выдаюць толькі такія пашпарты, што даюць права пражывання. Пашпартаў не атрымліваюць, напрыклад, сёстры, якія гатуюць ежу, або гувернанткі. Мая няня з Польшчы жыве ў мяне на падставе спецыяльна выдадзенай згоды ад губернатара Ватыкана і мае толькі тэрміновы пашпарт. Яна не можа карыстацца бясплатнай апекай здароўя. Гэта значыць, што лепш закахацца ў афіцэра Швейцарскай гвардыі.

**– А як Вы пазнаёміліся са сваім мужам?**

– На плошчы Святога Пятра. Ён стаяў у мундзіры, а я была валанцёрам падчас сустрэчы святога 2000 года.

**– Але Гвардыя не можа размаўляць падчас службы.**

– Ну неяк я яго пераканала. Адказаў мне.

**– Падміргнулі яму? Зрабілі нейкі знак?**

– Пачала нешта гаварыць і пажартавала, што нельга не адказаць жанчыне. І знайшла мужа. Чалавек ніколі не ведае, што можа здарыцца ў жыцці. Але не ўсё было ўкладзена ружамі. Я павінна была выехаць з роднай Варшавы, пакінуць бацькоў, вучобу. Скончыла ўніверсітэт я ўжо пасля шлюбу.

**– У часе канклаву Вы маглі размаўляць з мужам?**

– Не. Галасаванне адбываецца ў закрытым коле асобаў, якія не маюць кантакту са знешнім светам. Ад панядзелка ад 15 гадзіны да шостай раніцы ў чацвер яго практычна не было дома. І таксама як і працаўнікі, якія рыхтавалі Сіксціну, ён прысягнуў, што ўсё будзе сакрэтна.

**– Пад пагрозай экскамунікі?**

– Канешне.

**– У Ватыкане спадзяваліся, што канклаў будзе такім кароткім?**

– Думаю, што так. Я таксама адчувала, што ўжо ў аўторак вечарам будзе вынік. Лічыла нават, што кардыналы паспеюць да 17 гадзін. І чакала сюрпрызу.

**– І як Вы яго прынялі?**

– Вельмі пазітыўна. Проста неверагодна, што робіць гэты Папа. Пакінуў свой металічны крыж, хацеў паехаць у Santa Maria Maggiore (базіліка, у якой мянуюць Папу. – рэд.) на аўто маркі "Фокус", а не на лімузіне. Сказаў, што не патрабуе гвардзейцаў і аховы. Наш Папа (Ян Павел II. – рэд.) хіба таксама так сябе паводзіў у першыя гады кіравання.

**– Думаеце, што так ужо застанецца? Францішак не паддасца людзям, якія будуць шаптаць:"Ты Папа, ты павінен…"?**

– Я думаю, што ён зможа знайсці залатую сярэдзіну, згодзіцца хаця б на сакратара. Пакуль што я бачыла, як у машыне побач з ім сядзеў прэфект Папскага Дома Джордж Гэнсвайн. Такога яшчэ не бачылі. Вось так, у лімузіне Папа сядзіць па правым баку, а яго сакратар па левым. Вяртаемся да людскога духу інстытуцыі. Спадзяюся, што Папа Францішак "заразіць" гэтым Рымскую Курыю. А калі не "заразіць", то выкліча некаторыя змены.

**– Цікава, як выглядалі твары кардыналаў, калі пасля канклаву Папа сказаў: "Шаноўныя, вяртаемся аўтобусам"?**

– Бачачы, як сябе паводзіць новы Папа Францішак, магу сабе ўявіць гэтую сцэну. Аднак у Ватыкане ўсе павінны саступіць Папу. Таксама ўчора, калі ён рана прачнуўся, запытаўся ў вайскоўца Гвардыі, як яму спалася. "Мы не спалі, мы ахоўвалі Святога Айца", – адказаў той і пачуў: "Не маеце чаго рабіць, толькі мяне пільнаваць".

**– Самастойны Папа. Здаецца, што простасць у Касцёле павінна быць натуральнай. Аднак яна ўсіх здзіўляе.**

– Цудоўна, што мы вяртаемся да каранёў. Пышнасць Ватыкана здзіўляе ўвесь свет. Я б хацела, каб Папа гэта змяніў. Тым больш, што ён езуіт, цэніць простасць, беднасць. Я пішу доктарскую дысертацыю сярод езуітаў у Грыгарыянскім універсітэце, таму мне гэта ментальна вельмі блізкае.

**– У Вас будзе інтэрв'ю для дысертацыі?**

– Ну канешне, можа атрымаецца? А можа, Бэнэдыкт хацеў бы паглядзець на маю працу? Можа, і так, бо ён цяпер Папа на пенсіі.

*Апрацавала **Яна Ткачук***
*Каталіцкі партал Гродзенскай дыяцэзіі*



На сустрэчы з Бэнэдыктам XVI

## Адказы на Віктарыну са старонкі 10

| | |
|---|---|
| 1. Б | 6. А |
| 2. В | 7. Г |
| 3. Б | 8. Г |
| 4. Б | 9. А |
| 5. В | 10. А |

# Каб памяталі!

У 1939 годзе ў Ваўкалату ў касцёл Св. Яна Хрысціцеля прыехаў на працу ксёндз Рамуальд Дроніч. Да таго часу месцам яго працы была в. Жодзішкі, дзе і цяпер з вялікай удзячнасцю памятаюць кс. Рамуальда. У ваўкалацкай парафіі ўсе хутка палюбілі і сталі паважаць святара за добрыя адносіны да людзей, за жаданне служыць ім з радасцю. Не было такой справы, у якой кс. Рамуальд не змог бы аказаць дапамогу. Ён навучаў і пчалярству, і швейнаму майстэрству, а яшчэ быў вельмі добрым лекарам. Соф'я Іванаўна Пляшкун з удзячнасцю ўспамінае, як ёй, маладой дзяўчыне, ксёндз вылечыў апараную кіпятком руку. Нават знаку не засталося. А мясцовыя ўлады пры спатканні са святаром заўсёды здымалі перад ім шапку.

У 1941 годзе ў клубе ў Ваўкалаце немцы трымалі нашых ваеннапалонных. Многія з іх былі ў вельмі цяжкім стане. Ксёндз Дроніч стаў выкупляваць знясіленых салдатаў, забіраў да сябе, лячыў і ратаваў ім жыццё. Потым яны траплялі да партызанаў у мядзельскія і вілейскія лясы. Таксама кс. Рамуальд хаваў і лячыў яўрэяў, якім пашчасціла збегчы з гета ў в. Дунілавічы.

Немцы схапілі святара пасля св. Імшы 29-га чэрвеня, забралі з касцёла. Вернікі баранілі свайго дарагога ксяндза. Але што яны маглі супраць узброеных немцаў? Пасля катаванняў у турме ў Беразвеччы кс. Рамуальд Дроніч быў расстраляны 4 ліпеня 1942 года. Як памяць у касцёле застаўся абразок Пана Езуса ў цярновым вянку, намаляваны і падпісаны кс. Дронічам у 1940 годзе.

***Галіна Глушкевіч***


Помнік расстраляным ксяндзам у Барку каля Глыбокага

# ШКОЛА МАЛІТВЫ

**Малітоўная сустрэча моладзі**
**Браслаў**
**11 мая 2013 года**

***Хлеб моцных – у веры!***




**Запрашаем маладых людзей і іх апекуноў на чарговае малітоўнае чуванне ў Санктуарыі Маці Божай Браслаўскай.**

Тэмы нашых сустрэч у апошні час звязаныя з лагатыпам Года Веры. Апошняе чуванне ў кастрычніку 2013 г. – "Дрэва Жыцця" – было прысвечана Крыжу, а цяпер – Эўхарыстыі.

Хочам, каб супольная малітва дапамагла нам адчуць прысутнасць Уваскрослага Езуса. Ён, нібы вучняў каля возера, таксама і нас корміць хлебам, які Сам для людзей падрыхтаваў.

Адным з гасцей нашай сустрэчы будзе а. Анджэй Юхневіч OMI. Ён жа прамовіць канферэнцыю.

**Спатканне пачнецца а 15.00 гадзіне і закончыцца каля поўначы.**

**КАНТАКТ:**
с. Наталля SJE
тэл. маб. +37533 6775081 (мтс);
e-mail: sje.by@mail.ru

кс. Тадэвуш SDS
тэл. маб. +37529 5926569 (мтс);
e-mail: sds.by@mail.ru

http://vk.com/sdufar

# Асацыяцыя «Сужэнскія сустрэчы» запрашае

Асацыяцыя «Сужэнскія сустрэчы» праводзіць уікенды па аднаўленні і паглыбленні сужэнскай еднасці і любові. Найбліжэйшы ўікенд адбудзецца **26-28 КРАСАВІКА 2013 года** і будзе праходзіць **у Цэнтры "Карытас" у вёсцы Ляскоўка, каля Бараўлян (Мінскі раён)**. Рэкалекцыі пачынаюцца ў пятніцу а 18.00, а заканчваюцца ў нядзелю каля 15.00. Арганізатары забяспечваюць начлег і харчаванне. Неабходны ўдзел абодвух сужэнцаў, без дзяцей і ва ўсёй праграме.

"Сужэнскія сустрэчы" – гэта рэкалекцыйны рух, мэта якога – паглыбіць шлюбныя адносіны, дапамагчы мужу і жонцы лепш і глыбей зразумець адно аднаго і асэнсаваць таямніцу іх шлюбу. Гэта адбываецца шляхам прапановы шлюбным парам такой формы дыялогу, якая, з аднаго боку, дазваляе мужу і жонцы лепш пазнаць адно аднаго, а з другога – у выпадку непаразуменняў дапаможа выходзіць з канфліктных сітуацый.

Каб СУСТРЭЦЦА адно з адным і з Богам, трэба больш слухаць чым казаць, больш дзяліцца чым спрачацца, больш разумець чым ацэньваць, а ў першую чаргу – прабачаць.

Асноўная форма працы "Сужэнскіх сустрэч" – гэта трохдзённыя рэкалекцыі. Сужэнскія пары-аніматары і святары рыхтуюць удзельнікаў да самастойнай працы, гэта значыць, навучаюць правядзенню дыялогу. Такую працу сужэнцы праводзяць выключна ўдваіх. Ніякія справы, што яднаюць ці падзяляюць сужэнцаў, не распавядаюцца групе.

**Праграма заснавана на сучасных ведах з галіны псіхалогіі, камунікацыі і тэалогіі.**

Сямейная пара можа за час правядзення рэкалекцый аднавіць свежасць узаемных пачуццяў, абнавіць ці зноў адкрыць сваё адзінства. Сужэнцы пасля ўікенда звычайна ў стане вырашаць свае праблемы.

**На ўікенд могуць прыехаць як і так званыя «добрыя мужы і жонкі», так і тыя, што маюць сур'ёзныя канфлікты, часта на этапе думак пра развод.**

Праграма складзена такім чынам, што дазваляе кожнай пары паглядзець на сваё жыццё ў духу любові, і заснавана на сучасных ведах з галіны псіхалогіі, камунікацыі і тэалогіі.

На "Сужэнскія сустрэчы" прыходзяць людзі ў розным узросце, з розным досведам сямейнага жыцця, з розным узроўнем ведаў і рознай ступенню набожнасці, з розным узроўнем пачуццяў, якія яднаюць ці падзяляюць сужэнцаў. На ўікенд могуць прыехаць як і так званыя «добрыя мужы і жонкі», так і тыя, што маюць сур'ёзныя канфлікты, часта на этапе думак пра развод.

Ва ўікендзе прымалі таксама ўдзел шматлікія сужэнскія пары, якія жадалі вярнуцца адно да аднаго пасля разводу. Мы запрашаем кожную пару, якая імкнецца, каб іх сумеснае жыццё пастаянна развівалася. Мы не ставім удзельнікам фармальных абмежаванняў: на рэкалекцыі могуць прыехаць праваслаўныя і змешаныя сужэнствы, напрыклад, каталіцка-праваслаўныя пары, што толькі распісаліся ў ЗАГСе і яшчэ не вянчаліся, а таксама сужэнствы ў паўторным шлюбе.

"Сужэнскія сустрэчы" ўмацоўваюць сям'ю знутры, а дзякуючы гэтаму ўмацоўваецца Касцёл. Ад адносін мужа і жонкі ў вялікай ступені залежаць адносіны бацькоў з дзецьмі, са сваякамі, з іншымі людзьмі. Калі ў хаце валадарыць каханне, а сям'я выпраменьвае яго вонкі, то дух любові перадасца іншым...

**Кантактныя нумары для запісу на рэкалекцыі:**

Андрэй і Іна Любецкія:
+375 29 1675867;
+375 29 6253548
Павел і Алена Кузьміцкія:
+375 29 6045467
Іван і Алена Лубінскія:
+375 29 5562635;
+375 29 1408456;
+375 29 7821466

# Страх

Жыў-быў чалавек, які ўсяго баяўся. Ён баяўся цемры, павукоў, злых людзей. І неўзабаве з-за страху наогул перастаў выходзіць з хаты.

Ішоў міма вандроўнік. Чалавек пусціў яго на начлег і распавёў пра сваю бяду. Вандроўнік яму і кажа: "Ёсць страх, якога баяцца не трэба, і калі ты яго спазнаеш, то ніякі іншы страх цябе ўжо не спалохае. Ідзі, шукай яго. А як страшна табе стане, то ты адразу маліцца пачынай. Хай беражэ цябе Бог!"

І пайшоў чалавек шукаць страх, якога не трэба баяцца, хоць і было яму вельмі страшна. Ён ішоў праз халодныя горы, цёмныя лясы. Ішоў уздоўж глыбокіх рэк, па берагах салёных мораў. Калі яму станавілася страшна да жудасці, ён пачынаў Богу маліцца, і страхі адступалі. Так абышоў ён усю зямлю і зразумеў, што баяцца па-сапраўднаму трэба толькі аднаго: застацца без Бога.

Нездарма кажуць: хто спазнаў страх Божы, той нічога не баіцца.

*Падрыхтавала*
***Алена Пажога***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Валянціна Зялёнка** (г. Барысаў, Мінская вобл.), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Леакадзія Лаўножэнка** (в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н, Мінская вобл.), **Лія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **Вацлаў Пашкевіч** (в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н), **Аліцыя** (г. Паставы), **Генавэфа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Яніна Сінкевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Таццяна Рамейка** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Вільгельміна Барткевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Эдуарда Нагановіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Аляксандра Гушча** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Галіна Галуза** (в. Падсвілле, Глыбоцкі р-н), **Алена Кушаль** (в. Асінаўшчына, Докшыцкі р-н), **Веслава Балтрукевіч** (в. Ахрэмаўцы, Браслаўскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Саламея Мацулевіч** (в. Пузыры, Браслаўскі р-н), **Леакадзія Кісель** (в. Быстрымаўцы, Браслаўскі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Марыя Шкорнік** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **с. Фаўстына Цыдзік** (в. Каменка, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.), **Вольга Васілевіч** (г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н), **Ніна Яроцкая** (в. Дзешчанка, Уздзенскі р-н, Мінская вобл.), **Станіслаў Вышадка** (в. Заваряты, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвяраўдацаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# ПАМЯЦЬ І ЎДЗЯЧНАСЦЬ



**Мінуў год са дня, калі ў вечнасць адышоў ксёндз Уладас Пятрайціс. 9 мая 2012года, ва ўзросце 57 гадоў, нястомны святар і шматгадовы пробашч Мёрскай парафіі, пазней – пробашч Слабодкаўскай і адміністратар Ікazненскай парафій, адышоў да Пана Бога па вечную ўзнагароду.**

Ён пакінуў нас вясною, калі наваколле канчаткова абудзілася ад зімовага сну, ажыла прырода, патанула ў квецені зямля, а шчодрае майскае сонца падкрэслівала харaство жыцця. Смерць святара стала вялікай стратай для большасці яго былых парафіян. Наш ксёндз, Уладас Пятрайціс, пакінуў пасля сябе выразны, прыгожы і велічны след.

На жыццёвым шляху Бог дае людзей, якія тым або іншым чынам уздзейнічаюць на нас, змяняюць наш лад існавання. Часта здараецца, што гэтыя людзі нават не заўсёды ўсведамляюць, як шмат зрабілі для іншых сваім жыццём, сваімі ўчынкамі, сваімі дасягненнямі. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што ксёндз Уладас Пятрайціс у нашай мясцовасці быў знакавай асобай сучаснасці.

Амаль 30 гадоў назад, будучы літоўцам, поўным маладой энергіі, сілы волі, прыехаў ён у Беларусь і аднавіў Касцёл на Мёрскай зямлі. І не толькі ў Мёрах, а таксама касцёлы ў навакольных парафіях, атуляючы пастаяннай апекай вернікаў з усіх суседніх населеных пунктаў. Адрадзіў ксёндз Уладас і наш Ляпонпальскі касцёл.

Ён прыехаў у Беларусь, калі знішчалася вера, калі квітнеў атэізм. У касцёл прыходзіла некалькі чалавек, баючыся пераследу ўладаў. Святар патаемна хрысціў і даваў шлюбы. Уся ваколіца ведала яго як добрага спаведніка, духоўнага айца, з рук якога вернікі прымалі святыя сакраманты, з вуснаў якога чулі словы падтрымкі. У складаны атэістычны час ён быў промнем Божай надзеі для многіх людзей.

Ксёндз абраў за асноўную мову для слова Божага тую, якой карысталіся мы, – беларускую. Як давалася яму ўсё гэта, ведае толькі сам Бог. Але вынік, плады відавочныя: духоўнае ажыўленне тых, хто ў іншых мовах наўрад ці прыняў бы Хрыста. Дзе ён браў сілы і цярплівасць для спаўнення службы ў самых розных месцах, для кантактаў з людзьмі, для выхавання маладых святароў, для бясконцага будаўніцтва...

Актыўны, дзейны, энергічны, ён быў напоўнены дабрынёй, любоўю да дзяцей, моладзі, павагай да састарэлых, захапленнем да жывёлаў, птушак, кветак і ўсяго жывога.

Ён быў чалавекам дзеяння, і думка ягоная заўсёды была ясная і зразумелая. Якое шчасце было прысутнічаць на імшы і слухаць яго казанні! Як ксёндз Уладас знаходзіў заўсёды жывыя словы, якія кранaлі душы, падтрымлівалі і напаўнялі гнадацую! Назаўсёды застанецца ў нашай памяці яго дар, яго ўменне перадаць усім прысутным у касцёле пачуццё радасці, узнёсласці на свята Божага Нараджэння, на Вялікдзень. Якімі добрымі і светлымі былі ягоныя вочы. Асветлены ўсмешкай, з амбона, прамаўлялі такія шчырыя, мудрыя, павучальныя святочныя казанні. Яго гумар і жарты вярталі надзею, што ўсё будзе добра. Абаронены яго малітвай, мы адчувалі сябе ўпэўнена, спакойна і радасна, быццам частка Божага бласлаўлення і поспеху, падараваных яму небам, перадавалася і нам, яго парафіянам.

Незвычайны чалавек і таленавіты святар з добрай і чулай душой, з унутраным гарэннем, натхненнем. Якое шчасце, што ён быў дадзены нашай Мёршчыне, што такога духоўнага апекуна прызначыў нам Бог!

Ксёндз Уладас Пятрайціс атуляў сваёй пастырскай апекай усіх нас, сваіх парафіян. Любіў Мёршчыну, тут прайшлі найлепшыя гады яго жыцця, тут было шмат дасягненняў. Ксёндз любіў сваіх слабодкаўскіх парафіян, быў без меры ўдзячны сваім ласкавым і клапатлівым суседзям у Слабодцы. А з якім замілаваннем гаварыў аб сваіх парафіянах з Ікazні! Казаў: "Якія цудоўныя і добрыя людзі жывуць у Ікazні!" Нават калі зімою мінулага года ў апошні раз знаходзіўся на лячэнні ў мёрскай бальніцы, гаварыў: "У нядзелю я паеду ў Ікazнь. Як жа мае парафіяне без нядзельнай імшы?"



Сапраўды, Божыя планы часта пераўзыходзяць чалавечае разуменне. Здавалася, што ксёндз яшчэ поўны энергіі і непаддасца хваробам. Бясспрэчна, Бог любіў яго, але даў яму кароткае жыццё, насычанае зместам, здзейсненымі задумамі і справамі.

Мы ніяк не можам змірыцца, не можам пазбавіцца адчування пякучай і непапраўна-запозненай віны перад ксяндзом Уладасам. Мы шмат чаго не паспелі. Не паспелі нават падзякаваць ксяндзу за яго малітвы, за яго давер, за яго разуменне нашых праблем, за цярпенне, за суцяшэнне нас усіх прыкладам веры. Мы не паспелі папрасіць прабачэння за нашу людскую няўдзячнасць, за нашу нястрыманасць, за наша неабдуманае слова або ўчынак, папрасіць прабачэння ад імя ўсіх, хто, магчыма, пакрыўдзіў святара, і што, напэўна, пакінула глыбокія раны на яго сэрцы...

І няхай застанецца ў нас назаўсёды яго радасная ўсмешка, светлая памяць пра яго. І мы думаем, што ксёндз Уладас Пятрайціс з неба і цяпер выпрошвае ласкі для нас. Маем на гэта надзею і молімся аб супакоі яго душы.

*Парафіяне Лявонпальскай парафіі Мёрскага раёна*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**28 красавіка 2013 г. Ян 13, 31-33а. 34-35**

Езус перад сваім Унебаўшэсцем пакідае наказ усёй чалавечай супольнасці: любіце адно аднаго так, як Я вас палюбіў. А як любіць Бог? Дарэшты. Бясконца. Шчыра. Божая любоў адкрывае шлях да неба. Любячы па-Божаму, кожны можа ўвайсці ў неба. А неба – гэта месца і стан шчасця, крыніца якога – любоў. Любоў на зямлі сутыкаецца з выпрабаваннямі. Так як і Хрыста, нас таксама чакае цярпенне, магчыма, здрада, страх. Мы можам упасці проста на зямлю. Падчас падзення неба здаецца такім далёкім! Але хтосьці ўжо прайшоў такі шлях перад намі. Варта ўстаць, варта не здавацца. І нават смерць прыводзіць да ўваскрасення.

*– Ці памятаю пра сваіх бліжніх?*

*– Хто мой бліжні?*

*– Ці люблю аддана?*

*– Ці ведаю, што Бог хоча збавіць усіх людзей?*

*– Як перажываю свае цярпенні?*

*– Ці не абвінавачваю эгаістычна ўсіх у сваіх цярпеннях?*

*– Ці гатовы ў сваім жыцці браць прыклад з Хрыста?*

**5 мая 2013 г. Ян 14, 23-29**

Як палюбіць Бога? Трэба захоўваць Яго навуку. Адных слоў не дастаткова. Неабходна сваім жыццём паказаць, наколькі мы любім Бога. У гэтым сэнс хрысціянскага вучэння. Сённяшні свет занадта захоплены прыгожымі вобразамі, віртуальнай рэчаіснасцю. Але ці можна замаскіраваць пад любоў? Не. Любоў шчырая. Яна не ведае падману. Сапраўдная любоў сябруе з праўдай. А праўда бывае балеснай. Аднак не трэба гэтага баяцца. Бо любоў укрыжаваная вядзе да перамогі.

*– Ці хачу быць шчырым перад Богам і перад людзьмі?*

*– Ці паказваю сваю любоў да Бога сваімі ўчынкамі?*

*– Якое маё жыццё?*

*– Ці люблю іншага чалавека?*

*– Як перажываю свае няўдачы?*

*– Калі апошні раз я зрабіў дабро чужому чалавеку цалкам бескарысна?*

**9 мая 2013 г. Унебаўшэсце Лк 24, 46-53**

Езус адыходзіць. Ён узыходзіць да свайго Айца. Вучні на працягу апошніх тыдняў сталі сведкамі ашаламляльных падзей. Яны зноў маюць жывога Пана. Вялікая Пятніца была поўная слёз і плачу. Цяпер на тварах вучняў радасць. Яны не смуткуюць, што Езуса з імі не будзе. Яго не будзе толькі фізічна. Духоўна Ён будзе падтрымліваць свой Касцёл, які неўзабаве паўстане ў Дзень Пяцідзясятніцы. Вучні радуюцца таму, што маюць Божы давер. Езус даверыў ім адказную місію – працягваць Яго справу, абвяшчаць Евангелле. Наперадзе яшчэ шмат працы.

*– Што я думаю пра Касцёл?*

*– Ці адчуваю, што Касцёл – гэта мая Маці?*

*– Ці гатовы па прыкладзе вучняў працаваць дзеля дабра Касцёла?*

*– Чаму я ў Касцёле?*

*– Ці мая рэлігійнасць не азначае зaспакаення толькі рэлігійных пачуццяў?*

*– Чым магу дапамагчы сваёй парафіі?*

*– Калі апошні раз я ахвяраваў свой час і здольнасці для дабра Касцёла?*

**12 мая 2013 г. Ян 17, 20-26**

Езус моліцца аб еднасці ўсіх людзей. Колькі войнаў вядзецца ў свеце і колькі ўзброеных канфліктаў! Колькі слёз і гора існуе з-за таго, што людзі не шануюць адно аднаго! Што можам мы зрабіць, каб свет стаў лепшым? Трэба пачаць ад самога сябе. Давайце адкінем зайздрасць і эгаізм! Давайце зробім так, каб Божае слова ў нашым жыцці прынесла свой плён! Нам трэба перастаць думаць толькі пра сябе. Езус хоча, каб мы былі разам з Ім. Адкажам яму: "Так!"

*– Як я рэагую ў выпадку канфліктаў?*

*– Ці стараюся ўлагодзіць непаразуменні?*

*– Ці ўмею саступаць і прымiраць людзей?*

*– Ці ўмею прызнаваць сваю неправату?*

*– Ці ўмею прасіць прабачэння, калі не маю рацыі?*

*– Калі апошні раз я падаваў руку свайму непрыяцелю?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Віктар Місевіч**

## ЗАПРАШАЕМ НА ФОТАМАЙСТЭРНЮ З АЛЯКСАНДРАМ ЗЯНКОВЫМ

**4 мая 2013 года ў г. Глыбокае (Віцебская дыяцэзія) пройдзе майстэрня з удзелам вядомага фатографа, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Аляксандра Зянкова.**

**У праграме прадугледжана:**

1. Рэпартажная фатаграфія. Што трэба ведаць і ўмець фотажурналісту?;
2. Для чаго мы ілюструем тэкставыя матэрыялы?;
3. Рэпартаж трыма кадрамі (плюс практыка);
4. Пункт здымкі: як выбраць і што фатаграфаваць (плюс практыка);
5. Для чаго ў фатаграфіі расстаўляць акцэнты?;
6. Падрыхтоўка фотаздымкаў да публікацыі.

**Для распяхова ўдзелу ў майстэрні неабходна мець:**

- лічбавую фотаапаратуру;
- камп'ютар або ноўтбук (нэтбук) + праграму для апрацоўкі фатаграфій;
- жаданне навучыцца ці атрымаць дадатковыя веды.

**Запрашаем усіх фотакарэспандэнтаў-пачаткоўцаў і тых, хто любіць здымаць і хоча дапамагаць «Каталіцкаму Весніку».**

**Пачатак – а 10 гадзіне.**

Для ўдзелу трэба прайсці анлайн-рэгістрацыю на сайце catholicnews.by



# Конкурс у Глыбокім

Дух Святы нагадвае кожнаму з нас, што пра веру трэба казаць. Нам, хрысціянам, здаецца, што мы маем веру, але мець веру і мець глыбіню веры – розныя рэчы. "Вера без учынкаў мёртвая", – казаў апостал Павел. Дзякуючы ёй мы адчыняем Пану Богу дзверы, прагнем дзяліцца сваёй радасцю, дарамі і талентамі. Мы ўсе памятаем з прыпавесці, як чалавек закапаў талент у зямлю замест таго, каб памнажаць, і Пан Бог яго прагнаў ад сябе. Вера дае памкненне да добрых спраў, напаўняе любоўю адно да аднаго і заахвочвае чалавека расці духоўна.

За месяц да свята Хрыстовага Уваскрасення глыбоцкі парафіяльны "Карытас" арганізаваў конкурс "Пан уваскрос, сёння жыве!" У ім прынялі ўдзел больш за пяцьдзясят чалавек з нашай Глыбоччыны. І больш за ўсё прыемна ўразіла, што ўдзел прынялі не толькі дзеткі, але і іх бацькі. А таксама свае працы прадставілі калектывы: група дзіцячага садка № 4, сацыяльны прытулак, група людзей з абмежаванымі магчымасцямі "Betel-Caritas" і група дзіцячага дома сямейнага тыпу. Хочацца адзначыць прыемную акалічнасць: у конкурсе прымалі ўдзел не толькі каталікі, але і падзяліліся сваімі талентамі праваслаўныя вернікі.



Было рэпрэзентавана больш за восемдзесят прац рознай тэхнікі выканання. Трэба сказаць, што журы ў складзе кс. Мечыслава Янчышына, пробашча парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім, дырэктара Дзіцячай мастацкай школы імя Я.Драздовіча Жанны Балабуевай і майстра Дома рамёстваў Віктара Дудкевіча давялося нялёгка, бо вызначыць лепшых было дужа няпроста.

Усе прадстаўленыя працы – запамінальныя і цудоўныя. Але конкурс ёсць конкурс, таму самыя лепшыя былі ўзнагароджаны дыпломамі і падарункамі ў дзвюх намінацыях: найлепшы аўтарскі малюнак і найлепшая праца. Прызёры атрымалі ў падарунак заплечнікі, цацкі, наборы для малявання, флэшкі. І яшчэ адну з прац, за ідэю малюнка, адзначыў кс. пробашч Мечыслаў. Аўтар таксама атрымаў каштоўны падарунак.

Спецыяльным прызам парафіяльны "Карытас" адзначыў працу "Пасхальная вышыўка". Былі ўзнагароджаны калектыктыўныя творы з дзіцячага дома сямейнага тыпу і сацыяльнага прытулку. Яны адзначаныя каштоўнымі падарункамі: прасамі, развівальнымі гульнямі. Усе астатнія ўдзельнікі атрымалі салодкія падарункі.

Вось так таленавітыя ўдзельнікі конкурсу парадавалі сваімі працамі іншых, заахвочваючы нас дзяліцца сваімі здольнасцямі. І сапраўды, што "Хрыстос Уваскрос і сёння жыве!" нам сведчаць усе працы, якія былі прадстаўленыя на конкурснай выставе ў Глыбоцкім касцёле.

***Эліна Калугіна,***
*г. Глыбокае*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Наш паважаны ксёндз Генадзь Добрук 26 красавіка адзначае Дзень нараджэння. Віншуем і шчыра жадаем кс. Генадзю, каб цеплыня і любоў, якія ён дае людзям, вярталіся да яго памножаныя ўдвая, каб яго добрае сэрца заўсёды было здаровым, каб Пан Бог даў яму цярплівасці для пераадольвання ўсіх цяжкасцяў. Ад усяго сэрца жадаем пробашчу моцнага здароўя, вытрымкі ў жыццёвых цярпеннях, здзяйснення мараў і ажыццяўлення ўсіх планаў. Няхай Маці Божая адорыць яго радасцю і любоўю.*

*Вернікі касцёла Маці Божай Шкаплернай у Ідолце*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*У нашага святара **Юрыя Бараўнёва** 23 красавіка Дзень нараджэння і дзень Анёла-Ахоўніка. Ксёндз Юрый працуе ў нас амаль 9 гадоў. Выказваем яму шчырую падзяку. Гэта вельмі добры і шчыры чалавек. Дзякуючы яго намаганням і працы, уменню і цярплівасці, залатым рукам мы маем такі ўтульны і прыгожы Божы храм, куды можам прыйсці са сваім болем і смуткам, радасцю і шчасцем.*

*Нізка кланяемся і кажам "вялікі дзякуй" святару мы, яго парафіяне, за клопат, ласку і дабрыню, за тое, што вучыць любіць Бога і бліжняга. Жадаем кс. Юрыю моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спаўнення ўсіх задумаў. Няхай Усемагутны Бог асвячае зямны шлях нашага святара, а Маці Найсвяцейшая акрывае сваім мацярынскім плашчом. Мы ў сваіх штодзённых малітвах будзем памятаць пра яго.*

*Нарбэрта Камянецкая – ад імя ўсіх вернікаў парафіі Маці Божай Каралевы Кароны Польскай (вёска Порплішча)*



## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні Белпошты.

Вы можаце падпі-сацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра.

Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

**Кошт "Весніка" на 1 месяц – 2550 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Са святам!

*Ксёндз Сяргей Сурыновіч 11 красавіка адзначыў Дзень нараджэння. Віншуем нашага паважанага святара і жадаем яму моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шмат радасці, вытрымкі ў яго нялёгкай працы, добразычлівых людзей. Няхай вера, надзея і любоў не згасаюць у сэрцы, а кожны дзень будзе напоўнены шчасцем і радасцю. Выказваем падзяку кс. Сяргею за шчырыя малітвы, казанні, за адказную працу. За пяць гадоў ён шмат зрабіў для нашай капліцы, быў нашым духоўным кіраўніком. Цяпер кс. Сяргей знаходзіцца ў Друі, але мы яго ніколі не забудзем.*

***Няхай Пан Бог аберагае***
***Ад зла, хваробы і журбы***
***І ласкі шчодра пасылае***
***Сёння, заўтра і заўжды.***
***Няхай Панна Марыя апякуецца ім.***

*Вернікі капліцы св. Юрыя, в. Быстрымаўцы*

### Паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка!"

*Дасылаем шчырае прывітанне **брату Яраславу** з ваўкалацкай парафіі Докшыцкага дэканата з нагоды Дня імянінаў. Зычым добрага здароўя, поспехаў у справе служэння Богу і людзям. Хай Вас Бог адорыць шматлікімі ласкамі, а Маці Божая няхай няспынна апякуецца.*

*Дзякуем за добрае сэрца, за мудрыя жыццёвыя парады, за цікавыя заняткі нашай нядзельнай школы для дарослых. З удзячнасцю і павагай – чальцы гуртка нядзельнай школы.*

*Па даручэнні калектыву – А. Бабарыка*

### Паважаная рэдакцыя!

*Шчыра дзякуем за тое, што памятаеце і клапоціцеся пра духоўнае становішча састарэлых людзей. Для чалавека, які не мае сілы хадзіць у касцёл, "Каталіцкі Веснік" з'яўляецца крыніцай духоўнага развіцця. Кожны нумар газеты з захапленнем чытаем, пазнаём шмат цікавага і новага, даведваемся пра сваіх знаёмых. Для нас, састарэлых людзей, гэта вельмі важна. Жадаем газеце далейшага развіцця, большага тыражу. Усім супрацоўнікам газеты зычым здароўя, поспехаў, Божага благаслаўлення.*

***Марыя Шкорнік і Людміла Кухальская***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Таццяна Смоткіна
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3182

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.04.2013 г. у 09.27

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ